# Шлях Коопэрацыі




## Бюлетэнь

### коопэрацыйных цэнтраў БССР, белсельбанку і ўсекабанку



**№ 10 (70)**

**ЖНІВЕНЬ**

**МЕНСК 1928**

## ЗЬМЕСТ



### На мясцох



### Па каапцэнтрах



### Афіцыйны аддзел

ПРАЛЕТАРЫ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ

ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КООПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР ПРЫ
ЎДЗЕЛЕ БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

4-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ



## № 10 (70)

ЖНІВЕНЬ

МЕНСК 1928 г.



# Напярэдадні новае загатоўчае кампаніі

У мінулую хлебазагатоўчую кампанію мы мелі такое зьявішча, калі, ня гледзячы нават і на ўжыцьцё даволі рашучых і энэргічных мерапрыемстваў, мы, аднак-жа, мелі некаторы недабор, некаторую недазагатоўку хлеба, якая прывяла да досыць значнай няхваткі хлеба амаль на ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюзу, а асабліва ў раёнах спажывецкіх.

Зьвяртаючыся да прычын такога на першы погляд незразумелага зьявішча, мы павінны сказаць, што погляд, які існуе ў некаторай частцы насельніцтва, погляд, паводле якога прычынай гэтаму былі недахопы ў сыстэме пабудовы хлеба-загатоўчага апарату, у мэтадах загатовак і г. д., зьяўляецца, бязумоўна, памылковым. Праўда, што ў працэссе работы па загатоўцы хлеба мы мелі шмат выпадкаў няправільнага падыходу да справы, мы мелі выпадкі нездаровай канкурэнцыі паміж загатоўчымі арганізацыямі, выпадкі ўжываньня пры загатоўках мер націску, якія забаронены законам, мер, якія напомнілі нам часы ваеннага камунізму, часы „продразверсткі“. Але ўсё-ж такі мы павінны рашуча сказаць, што прычыны недабору хлеба ня ў гэтым. Галоўная прычына гэтага зьявішча ў тым, што прадукцыя сельскай гаспадаркі не дасягнула тае колькасьці, якая патрэбна для здавальненьня попыту.

Колькасьць і якасьць занятай пад засеў хлеба зямлі зусім дастатковая, але спосабы землякарыстаньня ў нас натолькі яшчэ не ўдасканалены, што даход ад гэтай зямлі вельмі і вельмі нізкі. У параўнаньні з культурнымі спосабамі вядзеньня сельскае гаспадаркі, тыя спосабы, якімі карыстаецца наша сялянства, даюць усяго 15-20 проц. даходнасьці. Раскіданая ў палосках і маленькіх кавалачках, старадаўнімі спосабамі апрацаваная і дрэнна ўгноеная зямля дае зусім малы і нязначны ўраджай; сельская гаспадарка не дае патрэбнае колькасьці хлебных лішкаў, якія маглі-б быць выкінуты на рынак і пайсьці на здавальненьне патрэбаў неземляробчага насельніцтва. Калі да гэтага далучыць яшчэ і тое, што за часы рэвалюцыі культурны ўзровень сялянства значна ўзрос, а разам з гэтым ўзрасло і спажываньне прадуктаў сельскае гаспадаркі самым сялянствам, гэта і будуць сапраўдныя і галоўныя прычыны таго становішча, якое стварылася ў нас у мінулую хлебазагатоўчую кампанію.

Гэтыя прычыны—дробнасьць зямлі і застарэлыя спосабы землякарыстаньня—зьяўляюцца базай, на якой магчымы ўсякія неспадзяванасьці ў справе хлебазагатовак. Магчымасьць гэта зрабілася сапраўднасьцю ў мінулую хлебазагатоўчую кампанію, у выніку чаго мы мелі досыць значна абвостраны хлебны крызіс.

Трэба, аднак-жа, сказаць, што, акрамя паказаных асноўных прычын, былі яшчэ больш дробныя, якія паглыбілі нашы няўдачы на загатоўках і яшчэ больш абвострылі хлебны крызіс. Да прычын апошняга парадку павінна быць у першую чаргу аднесена недастатковае задавальненьне вёскі прамысловымі таварамі. Сялянства, асабліва больш заможная яго частка, за апошнія гады значна матар'яльна ўзмацнілася і запатрабавала значна больш прамысловых тавараў, чымся іх магла даць наша прамысловасьць.

З іншых прычын нашых няўдач на хлебазагатоўчым фронце трэба адзначыць:

а) недастасаваньне цэн на хлеб да цэн на іншыя прадукты сельскае гаспадаркі, у выніку чаго сялянства ня было зацікаўлена ў продажы хлеба, а прадавала другародныя прадукты;

б) былі памылкі ў плянах завозу прамысловых тавараў, а таксама і ў сыстэме сельска-гаспадарчага падатку;

в) хібы самых загатоўчых арганізацый і недастатковая актыўнасьць іх і

г) выкарыстоўваньне нашых недахопаў прыватным гандлем і павялічаная яго актыўнасьць.

Да адхіленьня пералічаных прычын прыняты належныя меры, аднак-жа яны ў той ці іншай ступені будуць уплываць яшчэ на працягу бліжэйшых некалькіх гадоў. Асноўная прычына—дробнасьць гаспадарак і някультурныя спосабы землякарыстаньня—бязумоўна ня можа быць выжыта за адзін—два гады; для гэтага патрэбны больш значны тэрмін, што, аднак-жа, зусім не азначае таго, што мы не павінны весьці работы па зжываньні гэтае прычыны, у першую чаргу шляхам калектывізацыі дробных гаспадарак і агрыкультурных мерапрыемстваў. На гэты шлях сталі партыя і савецкая ўлада, і ў гэтай рабоце каапэрацыі наогул, і сельска-гаспадарчай асабліва, адводзіцца галоўнае месца, ёй надаецца вялікае значэньне.

У наступную хлебазагатоўчую кампанію мы павінны ўлічыць усе тыя памылкі, якія былі дапушчаны ў мінулым годзе, і пабудаваць справу такім парадкам, каб, па-першае, гэтых памылак ня было, і, па-другое, каб нам ня прышлося ўжываць усе тыя зусім непажаданыя спосабы, якія мы былі прымушаны ўжываць у мінулым годзе. Падрыхтоўка да наступнае кампаніі ўжо вядзецца і не ў далёкім часе будзе скончана. Дзеля гэтага мы цяпер-жа, пакуль яшчэ ня позна, павінны рашуча выкінуць з практыкі нашае работы ўсё тое, што можа так ці інакш перашкаджаць справе бесьперабойных загатовак.

Нездаровых зьявішчаў у хлебазагатоўках у нас ёсьць яшчэ многа, і на першае месца сярод іх павінны быць пастаўлены выключна ненармальныя ўзаемаадносіны паміж галоўнымі хлебазагатоўцамі, як Саюзхлеб і каапэрацыя. Гэтыя арганізацыі не знайшлі яшчэ агульных мэтадаў работы, і ў выніку, замест адзінага фронту, замест узгодненае

працы, мы маем бяссупынную канкурэнцыю. Пытаньне ставіцца так: альбо Саюзхлеб, альбо каапэрацыя. Такая пастаноўка пытаньня зусім няправільная, і тлумачыцца яна ў значнай меры недаацэнкай ролі каапэрацыі ў хлебазагатоўках. Удзел каапэрацыі ў хлебазагатоўках азначае, што ў гэтай працы прымае ўдзел усё арганізаванае сялянства, бядняк і серадняк, г. зн. той пласт сялянства, ад якога паступае асноўная маса хлеба. Чым шырэй разгорнецца работа каапэрацыі, тым больш будзе ўцягнуты ў хлебазагатоўку селянін, і тым больш будуць значныя вынікі хлебазагатовак.

Нажаль, гэта простая ісьціна далёка ня зусім яшчэ зразумела. Мы маем яшчэ такія зьявішчы, калі некаторыя сындыкаты і трэсты затрымоўваюць у сябе тыя тавары, якія патрэбны сялянству, і не перадаюць іх каапэрацыі. У некаторых мясцох СССР агэнты Саюзхлебу падрываюць работу каапэрацыі, ужываючы нават такія мэтады, як пужаньне сялян і імкненьне якімі-б то ні было спосабамі адцягнуць хлеб да сябе.

Ва ўмовах Беларусі мы маем яшчэ адну сваю спэцыфічную прычыну малапасьпяховасьці хлебных загатовак. Прычына гэтая—недастатковы ахват сялянства асноўнымі загатоўцамі хлеба. Гэтыя апошнія ня зьвярталі дастатковае ўвагі на мясцовыя хлебазагатоўкі. У апараце загатоўцаў існавала і ня зусім выжыта да гэтага часу думка, што Беларусь зьяўляецца спажываючай краінай, што ў БССР трэба ўвозіць хлеб і таму ня варта траціць энэргіі на параўнаўча невялікія мясцовыя загатоўкі. Трэба сказаць, што, ня гледзячы на адсутнасьць агульнага лішку хлеба ў Беларусі, мы ўсё-ж такі маем значны зварот мясцовага хлеба ў гандлі. Калі-б увесь гэты хлеб, які прадаецца сялянамі, быў-бы загатоўлены каапэрацыяй, дык вясною і ў летнія месяцы, калі значная частка сялянства жыве на купленым хлебе, каапэрацыя мела-б магчымасьць здаволіць насельніцтва хлебам па нормавых цэнах. Недастатковая ўвага да мясцовага хлеба прыводзіць да таго, што хлеб пападае ў рукі прыватных гандляроў і кулацтва, ад якога ўжо потым прыходзіцца купляць хлеб па цэнах, у некалькі разоў большых.

Спажывецкая каапэрацыя, якая мае свой гандлёва-загатоўчы апарат нават у самых глухіх вёсках, павінна ня толькі загатаўляць, але здавальняць насельніцтва хлебам. Плян хлебазагатовак прадугледжвае, што спажывецкая каапэрацыя павінна загатовіць 50 проц. агульнага пляну хлебазагатовак Беларусі, або 1.250.000 пудоў. Лічба гэтая з дастатковай пэўнасьцю паказвае, якое значэньне маюць мясцовыя загатоўкі ў Беларусі, і якія задачы стаяць перад каапэрацыяй у справе загатовак у наступным 1928-29 годзе.

Посьпех гэтае кампаніі будзе залежаць ад якасьці працы нізавое сеткі спажывецкае каапэрацыі і ад таго, які ўдзел прымуць шырокія колы сялянства і каапэрацыйны актыў у справе ажыцьцяўленьня загатоўчых плянаў. Увесь загатоўчы апарат павінен быць праверany і прыведзены ў поўную гатоўнасьць. На падставе мясцовых магчымасьцяй трэба скласьці пляны загатовак пры ўдзеле каапэрацыйнага актыву і сялянства. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на згуртаваньне і

ўздым грамадзкае думкі наваколзагатовак. Мінулая кампанія паказала недастатковасьць сувязі сяброў каапэрацыі са сваімі каапэратывамі ў справе загатовак.

Узгодненая работа ўсіх хлебазагатоўчых арганізацый, на падставе дырэктыў партыі, дасьць магчымасьць перамагчы тыя цяжкасьці, якія бязумоўна будуць у наступнай хлебазагатоўчай кампаніі, і пасьпяхова правесьці рэалізацыю ўраджаю. Пасьпяховыя вынікі ў гэтай справе будуць залежаць у значнай меры як ад каапэрацыйных арганізацый, гэтак і ад шырокіх мас працоўнага сялянства.

---

Аксючыц.

# Рэарганізацыя сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі

Сыстэма сел.-гасп. каапэрацыі зьяўляецца сыстэмай надзвычайна разгалінаванай: нізавая яе сетка складае некалькі спэцыяльных відаў сел.-гасп. каапэрацыі.

Саюзныя-ж арганізацыі (як акруговыя саюзы, так і Белсельсаюз) да гэтага часу зьяўляюцца унівэрсальнымі, якія павінны абслугоўваць усе гэтыя спэцыяльныя віды першапачатковай сеткі.

І, калі да гэтага часу саюзы з гэтай задачай спраўляліся надзвычайна дрэнна і ўсе гэтыя спэцыяльныя віды абслужыць як сьлед не маглі, дык у сучасны момант, дзякуючы надзвычайна бурнаму росту першапачатковай сеткі паасобных відаў сел.-гасп. каапэрацыі, яны ўжо зьяўляюцца нават тормазам у далейшым разьвіцьці паасобных відаў сел.-гасп. каапэрацыі.

А таму цяпер стаіць востра пытаньне аб тым, што патрэбна неадкладна ўзяцца за рэарганізацыю сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі ў напрамку пабудовы спэцыяльных саюзаў сел.-гасп. каапэрацыі ў гэтых галінах сельскае гаспадаркі, нізоўка ў якіх ужо дастаткова разгарнула сваю працу.

Каб падыйсьці да гэтага пытаньня больш правільна і пабудаваць сыстэму больш удасканалена, каб яна адпавядала ў далейшым разьвіцьці сельскае гаспадаркі тым запатрабаваньням, якія ёй будуць прад'яўлены сялянствам, неабходна высьвятліць прынцыповае пытаньне далейшае каапэрацыйнае гаспадарчае працы сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі.

У розных раёнах Савецкага Саюзу, асабліва ў РСФСР, да гэтага пытаньня падыходзяць па рознаму, у некаторых мясцох спэцыялізацыя сел.-гасп. каапэрацыі на гэтульki стала разгалінаванай, што будуюцца спэцыяльныя саюзы па асобных культурах поляводзтва. Мы лічым, што такія арганізацыйныя формы ў БССР так сама, як і ў РСФСР, ня зусім правільныя, ня зусім адпавядальныя таму напрамку працы, які павінен быць паложаны ў аснову працы каапэрацыйнае сыстэмы.

Мы лічым, што ў нас у БССР сыстэма сел.-гасп. каапэрацыі, пры яе арганізацыі, павінна будавацца па асобных галінах сельскае гаспадаркі, а не па асобных культурах поляводзтва, як гэта праводзіцца ў некаторых раёнах РСФСР. Па-першае, гэта выклікаецца тым, што, як мы ўжо вышэй сказалі, прынцыпова наўрад ці было-б правільна будаваць каапэрацыю, асабліва вытворчую, па асобных культурах поляводзтва. Па нашай думцы, можна прыдаваць сельскай гаспадарцы ў тым ці іншым раёне ў поляводзтве спэцыяльны ўхіл, напр.: ільнаводзтва, бульбяны (у нас у БССР), але гэта яшчэ зусім ня значыць, што гэты каапэратыў трэба абавязкова зваць ільнаводным альбо бульбаводным, бо ён у сваёй працы па частцы

збытавой мог бы быць зьвязаны толькі з куплей і продажам ільну. Але калі мы зьвяртаемся да працы вытворчай, што нам асабліва патрэбна ў сыстэме сел.-гасп. каапэрацыі, як сыстэме вытворчай каапэрацыі, дык тады яго праца павінна быць зьвязана ня толькі з аднэй гэтай культурай у поляводзтве, але яна будзе зьвязана з усімі галінамі поляводзтва. Гэта значыць, трэба даць селяніну крэдыт, машын, насеньня, угнаеньня і г. д. Між тым усё гэта, як і іншая праца, зьвязаная з поляводзтвам, уваходзіць у абавязак цяпер (а таксама гэта застаецца і на далейшы час) сельска-гаспадарчае крэдытнае каапэрацыі, якая існуе і шырока разгарнула сваю працу і якая, паводле нашае думкі, і павінна выконваць гэтую задачу.

З пабудовай такога спэцыяльнага каапэратыву з тым ці іншым ухілам асобнае культуры поляводзтва нам прышлося-б перадаваць яму крэдытныя і забесьпячальна-збытавыя функцыі, а значыць, трэба было-б бяз усякай мэты ліквідаваць існуючы крэдытны каапэратыў, які ўжо існуе ў данай мясцовасьці, бо ён стаў-бы непатрэбны, а розьніцы ў працы гэтага новага віду каапэратыву і таго крэдытнага, што існуе, ніякай ня было-б.

А таму нам здаецца больш правільным такая пастаноўка пытаньня, што мы павінны спэцыялізаваць працу нашага крэдытна-сельска-гаспадарчага таварыства па раёне і даць напрамак у яго працы такі, каб ім зьвярталася ўся ўвага ў сыстэме поляводзтва свайго раёну дзейнасьці на тую культуру, якая там павінна быць пануючай. Каб гэтую культуру ў гэтым раёне разьвіць, усе сродкі вытворчасьці павінны быць скарыстаны для гэтага, а таксама ўся апэрацыйна-вытворчая і агрыкультурная дзейнасьць таварыства павінна быць пабудована і прыстасавана так, каб яна спрыяла разьвіцьцю данае культуры.

На гэтым пытаньні мы застанавіліся так доўга таму, што яно, пры спэцыялізацыі сел.-гасп. каапэрацыі, зьяўляецца надзвычайна складаным. А цяпер, каб выявіць, якія спэцыяльныя віды сел.-гасп. каапэрацыі ў нас у БССР трэба будаваць, мы караценька зьвернемся да тых суадносін паасобных галін у сельскай гаспадарцы БССР, якія ёсьць у ёй у сучасны момант. Паводле даных Дзяржпляну, працантыя суадносіны паасобных галін сельскае гаспадаркі выглядаюць так: поляводзтва—52 проц., гародніцтва—3,7 проц., садоўніцтва—1,6 проц., пчалярства—0,1, лугаводзтва—12,4 проц., рыбалоўства—0,7 проц., жывёлаводзтва—29 проц. Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што ў нас у сельскай гаспадарцы БССР ёсьць тры асноўныя галіны, у якіх паводле іх эканамічнага значэньня можна будаваць і павінны быць пабудованы, спэцыяльныя сыстэмы сельска-гападарчай каапэрацыі. Гэта галіна поляводзтва, якая павінна абслугоўвацца сел.-гасп. крэдытнымі т-вамі; другая галіна, у якой павінна быць пабудована спэцыяльная сыстэма,—гэта аб'яднаныя садоўніцтва, гародніцтва і пчалярства. Усе віды першапачатковай каапэрацыі ў гэтых галінах гаспадаркі павінны быць спэцыяльнымі, але іх, па іх сумежнасьці працы, павінен аб'яднаць адзін саюз. Далей—галіна жывёлагадоўлі. Яна паводле свае таварнасьці ў БССР зьяўляецца ўжо самай галоўнай, і надалей яна будзе разьвівацца.

І апошні від сел.-гасп. каапэрацыі, хаця ён па сваім значэньні зьяўляецца і не апошнім, а нават першым, але ён выцякае з дзейнасьці другіх відаў сел.-гасп. каапэрацыі,—гэта калектыўныя гаспадаркі, у якія ўваходзяць камуны, арцелі, т-вы па супольнай апрацоўцы зямлі. У саюзныя аб'яднаньні гэтых арганізацый, як падрыхтоўчая ступень непасрэдна да калгасу, павінны ўваходзіць машынныя і мэліорацыйныя т-вы.

Прымаючы за падставу ў далейшым такі арганізацыйна гаспадарчы напрамак працы сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі, а таксама і наш схэматычны накід далейшае арганізацыі сыстэмы сельска-гаспадарчай каапэрацыі (пры чым гэты накід не зьяўляецца толькі схэмай тэарэтычнай, бо аснова яго ўжо праверана жыцьцём) мы лічым неабходнай рэарганізацыю сыстэмы сельска-гаспадарчае каапэрацыі, якая ўжо пачата ў гэтым годзе,

і скончыць яе трэба на працягу наступнага апэрацыйнага году. Такі тэмп рэарганізацыі выклікаецца тым, што трэба забясьпечыць, па-першае, бесьперабойную працу нізавое сеткі, захаваўшы бесьперабойнае кіраўніцтва, а таксама і гаспадарча-апэрацыйнае абслугоўваньне яе, і, па-другое, каб не здарыўся разрыў у працы паасобных сыстэм сел.-гасп. каапэрацыі, і каб была захована супольнасьць іх працы, як адзінай сыстэмы.

Выходзячы з вышэйсказанага, сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі павінна быць надалей реарганізавана ў такім выглядзе:

I. Калектыўныя гаспадаркі. Калектыўны рух у БССР за апошні год прыняў ужо вялікія разьмеры. Для таго, каб гэтым рухам правільна кіраваць, а таксама забясьпечыць нармальнае абслугоўваньне калгасных гаспадарак, трэба, па-першае, правільна пабудаваць арганізацыйна гэтую справу, а па-другое, мець належны апарат, які-б мог задаволіць абслугоўваньне калектыўных гаспадарак. У сучасны момант у колькасным выражэньні калектыўныя гаспадаркі складаюць каля 800 адзінак, сюды-ж павінны быць уключаны машынныя і мэліорацыйныя т-вы, якія таксама складаюць каля 1200 адзінак. Таму-та мы лічым, што неабходна ўжо ў гэтым годзе рэарганізаваць цэнтральную сэкцыю калгасаў пры Белсельсаюзе, арганізаваўшы Беларускі саюз калектыўных гаспадарак, вылучыўшы гэту справу з Белсельсаюзу, на працягу наступнага апэрацыйнага году рэарганізаваць усе сэкцыі калгасаў пры акрсельсаюзах у самастойныя саюзы. Такім чынам, сыстэма калектыўных гаспадарак будзе арганізавана, як сыстэма самастойная, с трох ступеняй.

Другі спэцыяльны від сел.-гасп. каапэрацыі—гэта малочна-жывёлагадоўчая каапэрацыя. У РСФСР гэта галіна гаспадаркі разгалінавана на тры віды каапэрацыі—малочная на чале з маслацэнтрам, жывёлагадоўчая на чале з сваім цэнтрам, і птушкаводная—на чале з сваім уласным цэнтрам. Мы лічым, што ў нас у БССР гэтая справа павінна быць аб'яднана ў адзінай малочна-жывёлагадоўчай спэцыяльнай сыстэме.

Гэта выклікаецца тым, што тэрыторыя БССР не раздроблена ў каапэрацыйным будаўніцтве паасобных галін жывёлагадоўлі, і што ўся гэтая справа мае паміж сабой цесную гаспадарчую сувязь і яе можна аб'яднаць у адзіную сыстэму, а таму яна і павінна будавацца так: нізавая сетка павінна быць спэцыялізавана па асобных відах жывёлагадоўлі і, далей, павінны быць пабудованы акруговыя саюзы малочна-жывёлагадоўчай каапэрацыі, якія аб'яднаюць малочную, жывёлагадоўчую і птушкагадоўчую справу і павінны весьці працу ў гэтай галіне як па збыце, так па забесьпячэньні. Сюды ўвойдзе збыт малака, мяса, скурасыравіны, шчаціны, хутраў, яек і інш., а таксама па забесьпячэньні канцэнтраванымі кармамі і інш. Усю справу, збытавую і забесьпячальную, мы лічым, што трэба будзе перадаваць з унівэрсальных саюзаў паступова, па меры абхопу яе спэцыяльнымі саюзамі. Яны-ж павінны арганізоўваць і кіраваць працаю па пераапрацоўцы малака.

Для аб'яднаньня іх дзейчасьці і агульнага кіраваньня працаю гэтага віда каапэрацыі павінен быць арганізаваны Беларускі цэнтральны малочна-жывёлагадоўчы саюз. Гэтае пытаньне ўжо вырашана як у каапэрацыйным, так і ў савецкім парадку, і ў гэтым годзе ўжо арганізаваны акруговыя саюзы ў чатырох акругах—Гомельскай, Магілеўскай, Віцебскай і Менскай, а таксама і цэнтральны малочна жывёлагадоўчы саюз у астатніх акругах; трэба будзе, па меры патрэбнасьці, таксама арганізаваць акруговыя саюзы, тады і малочна-жывёлагадоўчая справа будзе вылучана ў спэцыяльную сыстэму.

Трэці від спэцыяльнай каапэрацыі—гэта ў галіне садоўніцтва, куды ўвойдзе і пчалярства. Гэта від каапэрацыі садова-гароднiцкай. Гэты від каапэрацыі павінен будавацца так: першапачатковае садова-гародніцкае т-ва з буйным раёнам дзейнасьці; затым, у тых акругах, дзе садоўніцтва і гародніцтва шырока разгорнута, дзе ўжо разгарнула сваю працу

першапачатковая сетка, трэба будзе арганізаваць акруговыя саюзы садова-гародніцкай каапэрацыі, якія часова будуць уваходзіць членамі ў Белсельсаюз і будуць падпарадкаваны яго кіраўніцтву, для чаго ў Белсельсаюзе гэтая справа павінна быць вылучана ў асобны аддзел, каб лепш наладзіць гэтую справу на Беларусі. З часам-жа, калі будуць пабудованы саюзы ў некалькіх акругах, паўстане пытаньне і аб арганізацыі Беларускага садова-гародніцкага саюзу. Тады і гэтая справа будзе вылучана ў спэцыяльную самастойную сыстэму сел.-гасп. каапэрацыі.

Па пытаньні аб садова-гародніцкай каапэрацыі існуе і такая думка, што паколькі садоўніцтва і гародніцтва будзе аб'яднацца ў буйна-раённую нізавую сетку, а таксама і таму, што справа садоўніцтва і гародніцтва ў яе збытавай частцы патрабуе надзвычайнае гнуткасьці апарату і што дзякуючы таму, што раён дзейнасьці акруговага саюзу будзе невялікім, праца можа аказацца нерэнтабэльнай, дзеля гэтага акруговых саюзаў арганізаваць непатрэбна, а арганізаваць сыстэму з двух ступеняй—нізоўкі—Беларускі саюз, з яго інструктарскім абслугоўваньнем на мясцох. У тых-жа акругах, дзе гэта зьявілась неабходным, ён мог-бы адчыніць сваё аддзяленьне, што забясьпечыла-б больш гнуткую працу апарату і, што галоўнае,—скараціла-б адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі.

З вылучэньнем усіх гэтых спэцыяльных галін працы з унівэрсальнай сыстэмы саюзаў сел.-гасп. каапэрацыі ў спэцыяльныя, Белсельсаюз, акрсельсаюзы і што цяпер існуюць будуць мець галоўнай сваёй працаю забесьпячэньне насельніцтва сродкамі сельска-гаспадарчае вытворчасьці (машынамі, прыладамі, насеньнем, штучным угнаеньнем і г. д.), а таксама займацца збытам прадуктаў поляводзтва. Яны будуць аб'яднаць і кіраваць працай, а таксама і сваю працу праводзіць праз сел.-гасп. крэд. т-вы. У іх жа будуць уваходзіць і ўсе іншыя т-вы, зьвязаныя з поляводзтвам, насеньняводзтвам і інш., пры чым, з вылучэньнем усіх спэцыяльных відаў працы з унівэрсальных саюзаў, апарат іх павінен будавацца ў такім напрамку, каб акруговыя сель.-гасп. крэд. саюзы маглі з часам праводзіць крэдытныя функцыі. Паступова ім трэба будзе перадаваць крэдытныя функцыі, ліквідуючы акруговыя т-вы сел.-гасп. крэдыту. Гэтым мы, папершае, патанім працу крэдытнага апарату і, па-другое, ліквідуем той разнабой у кіраўніцтве сел.-гасп. крэд. т-вамі, які існуе ў сучасны момант і які, з аднаго боку, дрэнна адбіваецца на працы самае нізоўкі, а з другога боку, перашкаджае дабіцца выразнасьці ў працы акруговых устаноў.

Цяпер аб самім цэнтральным каапэрацыйным апараце, аб яго ўвязцы і далейшым напрамку працы. Саюзы калектыўных гаспадарак, як цэнтральны, так і акруговыя, ніякіх апэрацыйных функцый не вядуць, яны вядуць толькі арганізацыйна-тэхнічнае абслугоўваньне калектыўных гаспадарак, аказваюць ім юрыдычную дапамогу як па дырэктывах ураду, так і каапэрацыйных цэнтраў. Наогул ведаюць справай калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Працу па збыце і забесьпячэньні калектыўных гаспадарак яны праводзяць праз спэцыяльныя віды сел.-гасп. каапэрацыі на дагаворных падставах.

Што-ж датычыцца другіх спэцыяльных відаў сел.-гасп. каапэрацыі, то яны сваю працу праводзяць, як апэрацыйна-гаспадарчую, так і арганізацыйную, самастойна. Для агульнага кіраваньня ўсёй супольнай працай спэцыяльных відаў сел.-гасп. каапэрацыі, а таксама і плянаваньне іх працы, для рэгуляваньня агульнага напрамку арганізацыйнай дзейнасьці, павінен быць арганізаваны саюз саюзаў сельска-гаспадарчай каапэрацыі, кіраўніцтву якога павінна быць падпарадкавана ўся праца спэцыяльных відаў сел.-гасп. каапэрацыі.

Праца нізавое сеткі ўсіх спэцыяльных відаў сел.-гасп. каапэрацыі, апроч увязкі з сваімі саюзамі, куды адносіцца поўная гаспадарчая дзейнасьць: арганізацыйная праца, каапэраваньне насельніцтва, праца 3



беднатой і г. д., іх праца ў крэдытных адносінах павінна быць увязана з тым крэдытным т-вам, якое працуе ў іх раёне дзейнасьці.

Вось прыблізна як павінна быць арганізавана, паводле нашае думкі, сыстэма сел.-гасп. каапэрацыі. Гэтае арганізацыйнае становішча, а таксама і гаспадарчыя суадносіны паміж паасобнымі відамі дадуць магчымасьць у далейшым весьці працу па каапэраваньні і калектывізацыі сельскае гаспадаркі супольна з усімі відамі сельскае гаспадарчае каапэрацыі, як сыстэмай адзінай, паасобныя часткі якой дапаўняюць адна адну паасобнымі спэцыяльнымі відамі і пад агульным кіраўніцтвам саюзу саюзаў сельска-гаспадарчае каапэрацыі.

Гэтае пытаньне намі ўжо ў гэтым напрамку прыблізна распрацавана і ўносіцца ў урадавыя ўстановы, але ў зьвязку з тым, што, на наш погляд, гэтае пытаньне надзвычайна важнае, яно павінна быць абгаворана больш шырокім колам як саміх каапэрацыйных працаўнікоў, так і другіх зацікаўленых у працы сел.-гасп. каапэрацыі ўстаноў і, самае галоўнае, нашай шырокай каапэрацыйнай грамадзкасьцю. З гэтаю мэтаю мы і лічым неабходным вынесьці на шырокае абгаварэньне пытаньне ў нашым друку.

---

**Мар'ясін**

# Майскі закон С. Н. К. СССР пра прамкаапэрацыю

Закон 21 мая пра ўзмацненьне прамкаапэрацыі ставіць перад цэнтрам і акрсаюзамі прамкаапэрацыі шэраг новых задач.

Асноўная з іх—максімальнае разьвіцьцё промыслаў тых, што працуюць на не дэфіцытнай сыравіне, уцягваньне ў іх яшчэ некаапэраванае масы.

У Беларусі да гэтага часу разьвіцьцё саматужных промыслаў ішло, галоўным чынам, за лік дэфіцытнае сыравіны. Праўда, мы ўжо маем шэраг арцеляй, якія працуюць на недэфіцытнай сыравіне, але яны нязначныя. Да недэфіцытных трэба далучыць промыслы: галянтарэйны, смалакурны, некаторыя мастацкія і мэталёапрацоўчыя, шчэпны і г. д. Апроч таго, што для гэтых промыслаў мы маем сыравіну, яны працаёмкія, і збыт іх вырабаў забясьпечаны.

Наступная задача—максімальная аддача ўвагі каапэраваньню бедныаты і барацьба з „нібыта-каапэратывамі". Нельга сказаць, што на гэтым фронце ў нас добра. Мы маем шэраг фактаў, якія сьведчаць аб тым, што бядняк-саматужнік, а асабліва ў мястэчку, загнаны, часта яго правы і патрэбы абумоўліваюцца больш моцнымі, іншы раз кулацкім элемэнтам. Беднаце цяжка парою папасьці ў арцель. Работнікам нашае сыстэмы трэба ўлічыць што дзяржава, даючы сродкі саматужнай каапэрацыі, у першую чаргу дае іх беднаце і серадняку. Кулакоў трэба трымаць на воку, а „нібыта-каапэратывы" трэба разбурыць.

Закон прыраўноўвае арцельных саматужнікаў у многіх пытаньнях да рабочых. Тут і запіс на біржы працы і камунальныя паслугі і г. д.

Гэты славуты факт павінен быць шырока растлумачаны саматужнай каапэраванай масе, як і ўвесь закон цалкам.

Закон вызначае ўвядзеньне плянавасьці ва ўсю працу нашае сыстэмы. У гэтай галіне саюзам трэба падцягнуцца. Плянавасьць у нас да гэтага часу кульгала. Таксама адсутнічаў у нас строга вытворчы пачатак, г. зн., ня было дастатковага вытворчага кіраўніцтва промысламі, а адсюль

і няважная часам якасьць вырабу і разгортваньне не асабліва патрэбных промыслаў і, наадварот, не даразгортваньне патрэбных, важных і рэнтабэльных.

Дэкрэт СНК прапануе саўнаркомам саюзных рэспублік, дапасавальна да мясцоў, распрацаваць шэраг законадаўчых актаў з мэтаю ўмацаваньня прамкаапэрацыі. Наша задача—загадзя падрыхтаваць усе патрэбныя для гэтага матар'ялы ў інтарэсах адпаведнасьці законадаўства патрэбам і запытаньням саматужнае масы.

Рэч вядомая, што тут неахоплена ўсё тое, што дае дэкрэт, але сказана досыць для таго, каб зацікавіць саматужную масу, уцягнуць яе ў справу абгаварэньня і зрабіць дэкрэт папулярным і спрыяць прыстасаваньню яго да шэрагу актуальных спраў, мерапрыемстваў і фактаў на карысьць вялікай каапэраванай саматужнай масе.

---

**І. Гармізэ**

# Дырэктывы па складаньні пяцёхгадовага пляну спажыўсыстэмы БССР (1928-29—1932-33 г.)

Сацыялістычная гаспадарка ёсьць гаспадарка плянавая. У ёй роўнавага асобных элемэнтаў народна-гаспадарчае сыстэмы ўстанаўліваецца не стыхійна, шляхам барацьбы на рынку паасобных груп і пластоў вытворцаў і спажыўцоў, а сьвядома—шляхам прасоўваньня і ўліку ўсіх элемэнтаў, неабходных для сацыялістычнага будаўніцтва.

Адбудоўчы пэрыод, які закончыўся, высунуў вялікія задачы рэканструкцыі народнае гаспадаркі пры забесьпячэньні ёй больш шырокага тэмпу разьвіцьця.

У сьвеце гэтых задач вырастае вялікае значэньне пяцёхгадовага пэрспэкцыйнага пляну разьвіцьця народнае гаспадаркі, які цяпер выпрацоўваецца.

Пытаньні каапэрацыйнага будаўніцтва ня могуць не знайсьці сабе напрэбнага месца ў пляне. Арганізуючы ўлік і задаваленьне патрэб насельніцтва, абагульваючы спажываньне, забясьпечваючы прамысловасьць сельска-гаспадарчай сыравінай,—каапэрацыя зьяўляецца зьвенчаком паміж сельскаю гаспадаркаю і прамысловасьцю.

Задача працы па складаньні пяцёхгадовага пляну, якая надыходзіць, мае мэтаю намеціць асноўную лінію разьвіцьця спажыўсыстэмы. Цэнтральныя задачы, якія перад ёю стаяць,—устанавіць характар узаемаадносін з другімі галінамі народнае гаспадаркі і на аснове ўліку аб'ектыўных магчымасьцяй выявіць эфэкт, які чакаецца ад выкананьня плянаў.

Асноўнай ідэяй пяцёхгадовага пляну разьвіцьця спажыўсыстэмы павінна зьявіцца далейшае намнажэньне сацыялістычных элемэнтаў у сфэры разьмеркаваньня, на аснове правільнага стасунку, гаспадарчае і арганізацыйнае грамадзкае работы. Гэта азначае далейшы рост удзельнае вагі каапэрацыі ў тавараздвароце рэспублікі. Пэрспэктыўным плянаваньнем у працягу пяці год прадугледжваецца разьвіцьцё звароту спажыўсыстэмы да граніц амаль поўнага ахопу спажывецкіх патрэб каапэраванага насельніцтва пры аднячасовым удзеле ў назапашаньнях сельска-гаспадарчых прадуктаў і сыравіны.

Гэтая задача зьвязана з далейшым выціскаганьнем і замяшчэньнем прыватніка ў пасярэдніцкім звароце. Прыватны гандлёвы апарат, які яшчэ ня так даўно займаў рашучае месца ў забесьпячэньні патрэб насельніцтва, дзяржаўным рэгуляваньнем, зьведзены да ролі дапаможнай сілы ў

адносінах дзяржаўнага і каапэрацыйнага гандлю. Прыватны гандаль у сучасны момант зьяўляецца хутчэй усяго перажыткам мінулага, як элемэнтам сучаснага. Але ў сваім паступовым росьце каапэрацыя павінна прыняць ўсе меры, каб гэта замяшчэньне было ня толькі колькасным, але і якасным. Якасьць абслугоўваньня спажыўца ў цяперашні час ні ў якім выпадку нельга лічыць здавальняючай. Поруч з скарачэньнем відавочных выдаткаў звароту мы маем рост нявыгоднасьцяй у спажыўца, якія зьвязаны з выдаткам нэрвовых і фізычных сіл (чаргі, штырханьні ў крамах і г. д.). Таму зусім правільна аддаецца вялікае месца ў пэрспэктыўным плянаваньні пытаньням, якія зьвязаны з паляпшэньнем тэхнікі і рацыяналізацыі абслугоўваньня спажыўца. Мерапрыемствы, якія намячаюцца ў гэтай галіне, наступныя: крамнае будаўніцтва ў гарадох і сёлах і мэханізацыя крамнае справы на аснове ўвядзеньня машын, тэхнічных прыстасаваньняў і нармалізацыі тэхнічных працэсаў водпуску тавараў. Патаненьне выдаткаў звароту ні ў якім выпадку не павінна ісьці за лік пагоршаньня якасьці абслугоўваньня спажыўца, а за лік мерапрыемстваў рацыяналізацыі таварапрасоўваньня. Генэральныя ўмовы (як форма ўзаемаадносін з дзярж. прамысловасьцю, якая сябе апраўдвае і забясьпечвае плянавасьць у звароце) павінны быць захованы і расшыраны. Усякія спробы разрыву гэтае важнейшае формы працы павінны быць зьнішчаны. Транзытны завоз тавараў павінен быць расшыраны і распаўсюджаны на спажыўтаварыствы. Зьдзейсьненьне гэтага мерапрыемства ў шырокіх памерах патрабуе некаторае арганізацыйнае перабудоўкі спажыўтаварыстваў на пачатках куставога аб'яднаньня іх закупальнае дзейнасьці (куставаньне). Сыстэма папярэдніх заказаў зьнізу да верху зьяўляецца важнейшым мерапрыемствам, якое забясьпечвае зьдзейсьненьне транзыту ў нізавыя зьвяны. У сыстэме мерапрыемстваў па патаненьні і рацыяналізацыі таварапрасоўваньня займае не малое месца рэарганізацыя складовае гаспадаркі ўсяе сыстэмы, на аснове павышэньня тэхнічнае базы яе. Комплекс усіх гэтых мерапрыемстваў важны ня толькі с пункту гледжаньня патаненьня таварапрасоўваньня, але і ўзьдзейнічаньня на якасьць і асартымэнт вырабленае прамысловасьцю прадукцыі.

У пэрспэктыўным плянаваньні павінна быць аддана ўвага і пытаньням абагульваньня спажываньня ў такой ступені, каб яно сапраўды ўзьдзейнічала на бытавыя ўмовы рабочае сям'і. У працягу пяці год павінна быць расшырана сетка сталовак, і павышана якасьць іх прадукцыі. Хлебапячэньне павінна быць разьвінута да памераў, якія маглі б у поўнай меры забясьпечыць хлебам працоўнае насельніцтва. Усё гэта патрабуе адпаведных укладаў капіталу на пабудову новых прадпрыемстваў і пераабсталяваньне тых, якія ёсьць.

Матар'яльны рост спажыўсыстэмы павінен абумоўлівацца ня менш энэргічным узростам, арганізацыйна-грамадзкім бокам яе работы. Першае месца ў гэтай галіне павінна заняць каапэраваньне насельніцтва. За пяць гадоў намячаецца ўцягнуць у каапэрацыю шырокія масы рабочых і сялян завастрэньнем увагі на ўзмацненьне каапэраваньня пралетарска-бядняцкіх і серадняцкіх груп у вёсках і індустрыяльных рабочых у гарадох. Каапэраваньне павінна абумоўлівацца мерапрыемствамі па ўмацаваньні самадзейнасьці шырокіх мас, актыўнага ўдзелу і ўзьдзейнічаньня іх на якасьць працы спажыўсыстэмы. Лічбовае каапэраваньне павінна адбывацца з яшчэ больш інтэнсыўным зьбіраньнем паявых капіталаў, якія зьяўляюцца адлюстроўваньнем сапраўднага ўдзелу каапэраваных у каапэрацыйным будаўніцтве.

Ва ўмовах матар'яльнага росту і ўзмацненьня каапэрацыі расшыраюцца магчымасьці культурнага абслугоўваньня каапэрацыяй каапэраваных мас насельніцтва. Культурныя патрэбы насельніцтва, якія ўзрастаюць, супадаюць з магчымасьцямі спажыўсыстэмы, якія расшыраюцца.

Размах і расшырэньне матар'яльнае і культурнае работы спажыўсыстэмы павінны знайсьці строгія суадносіны з грашовымі магчымасьцямі.

Агульныя тэндэнцыі разьвіцьця таваразвароту і сацыяльныя зрухі ў сфэры звароту (рост зваротаў, зьліжэньне памераў спросу і прапаноў, замяшчэньне прыватнага гандлю, вызваленьне сродкаў прамысловасьці з гандлю) сыгналізуюць некаторыя цяжкасьці грашовага парадку ў спажыў-каапэрацыі.

Грашовыя пытаньні спажыўсыстэмы ў пяцёхгадовым пляне зьяўляюцца пытаньнямі двух парадкаў. З аднаго боку, ставіцца пытаньне аб грашовым насычэньні сыстэмы па асобных яе зьвенчаках як уласнымі сродкамі, якія атрымоўваюцца перш за ўсё ў парадку каапэраваньня насельніцтва, і пазыковым капіталам для крэдытаваньня гандлёвага звароту. З другога боку, сфэра грашовых пытаньняў мае на ўвазе грашовую палітыку гаспадарчае дзейнасьці каапэрацыі: капіталанамнажэньне на ўзроўні ўстаноўленых норм налажэньняў пры скарачэньні нявытворчых выдаткаў, вызваленьне ў зваротныя капіталы каапэрацыі сродкаў, якія ўкладзены ў нярухомыя ці маларухомыя каштоўнасьці, разьмеры таварных запасаў і г. д.

Апроч таго, капітальнае будаўніцтва павінна атрымаць асыгнаваньні з дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў і спэцыяльных фондаў доўгатэрміновага крэдытаваньня.

Тут мы крануліся асноўных элемэнтаў пэрспэктыўнага плянаваньня спажыўсыстэмы.

Пытаньням пэрспэктыўнага плянаваньня партыяй і савецкаю ўладаю аддаецца вялікая ўвага. Далейшы рост народнае гаспадаркі ў значнай меры абумоўліваецца тым, паколькі мы сапраўды выразна і прадумана вызначылі праграму і аб'ем нашае працы на целы шэраг гадоў. Апошняе ў значнай меры залежыць ад ступені шырокага і актыўнага ўдзелу рабоча-сялянскіх мас у плянаваньні гаспадаркі. Калі мы да гэтага часу ня выжылі некаторых момантаў, як кажуць, „бюракратызацыі" плянаў, то толькі дзякуючы таму, што мы недастаткова ўцягнулі ў плянаваньне гаспадаркі рабочых і сялян.

Распрацоўваючы на сходах упаўнаважаных пытаньні аб дырэктывах па складаньні пяцёхгадовага пляну разьвіцьця спажыўсыстэмы, Белкаапсаюз гэтым закладае пачатак для ўцягваньня каапэрацыйнага актыву у намечаную сыстэму мерапрыемстваў па далейшым каапэрацыйным будаўніцтве. У гэтым гарантыя пасьпяховасьці і рэальнасьці нашага плянаваньня.

---

**Флеер**

# Пра якасьць абслугоўваньня

Хто толькі ня траціў часу ў чаргах каля каапэрацыйнае крамы, хто толькі іх ня лаяў усялякай прыстойнай і няпрыстойнай лаянкаю? Хто ня ведае пра вялізную колькасьць пайшчыкаў, якія ня любяць прыватніка, але ўсё-ж такі змушаны ісьці да яго, бо няма сіл стаяць у чаргах. Частагуста наш час каштуе нам даражэй за тую эканомію, якую можа нам даць каапэрацыйная крама.

Хто толькі, стаючы ў чарзе, не наглядаў прадаўца, які бегае ўзад і ўперад, уверх і ўніз і ледзьве пасьпявае адпусьціць аднаго пакупца, як месца апошняга займае ўжо другі.

Хто толькі не наглядаў лаконічных адказаў: не!-так!-ёсьць! На пакупца, які любіць пагаманіць, які прывык паразважаць пра якасьць, пра сьвежасьць, пра тавары, якія маюць быць атрыманымі ў хуткім часе і г. д., гэткі адказ заўсёды робіць дужа непрыемнае ўражаньне. Такі пакупец выходзіць з крамы цьвёрда перакананым, што прадавец рэзкі і грубы, і што да пайшчыка яму няма ніякае справы.

Ці сапраўды такі грубы прадавец? Хто так думае, той жорстка памыляецца. Бязумоўна, сярод усяе масы прадаўцоў ёсьць і грубіяны, якіх нельга цярпець за каапэрацыйным прылаўкам. Але, як правіла, гэта зусім ня так. Умовы працы, вялікая нагрузка, праца бадай без перапынку не дае магчымасьці весьці гутарку з пакупцом, прымушае адказаць яму як мага больш каротка. Дзеля гэтага ў нас і занадта вялікія чаргі і, часам, дрэнныя абходзіны з пайшчыкам. Дзякуючы пасьпешнасьці працы здараюцца недаважваньні, пераважваньні, дрэнная ўпакоўка. Атрымліваецца нізкая якасьць працы, ад якой спажывец адчувае вялікія нявыгоды. Наш спажывец культурна вырас, у яго няма часу стаяць у чаргах. Ён хоча лепш за гэты час праглядзець газэту, а яго прымушаюць марнаваць свой час у чаргах.

Спажывец павінен быць абслужаны нашаю каапэрацыяй у чыстым памяшканьні, бяз доўгага чаканьня, чыста апранутым прадаўцом, беззаганна ветлівым. Такім парадкам пытаньне якасьці абслугоўваньня павінна стаць на першае месца. Тут трэба многа зрабіць. Трэба пераабсталяваць нашы памяшканьні, трэба палепшыць транспарт тавараў, кваліфікаваць сваіх прадаўцоў, шырэй практыкаваць сыстэму папярэдняга разважваньня і ўпакоўкі.

Але самае галоўнае ў сучасны момант—гэта ўстанаўленьне правільнае роўнамернае нагрузкі прадаўца. Мы павінны канстатаваць, што сучасная нагрузка шмат у якіх выпадках празмерная.

Прадавец, як бы ён ні стараўся, ўсё-ж такі няўзмозе абслужыць бяссупынны струмень пакупцоў. Ствараюцца доўгія чаргі, якія мы так ня любім. Трэба сказаць, што панізіць кошт гандлёвага апарату ў ЦРК не магчыма; што ўсякае памяншэньне выдаткаў у гэтай галіне выкліча пагоршаньне абслугоўваньня спажыўца; што ў паасобных выпадках (а такіх выпадкаў будзе ня мала) мы павінны будзем пайсьці на павялічэньне ліку прадаўцоў, а значыць і на павялічэньне выдаткаў.

У кожным разе, калі мы можам з'эканоміць на адміністрацыйнагаспадарчай частцы, то гэтая эканомія павінна пайсьці на лепшае абслугоўваньне спажыўца.

Нам здаецца, што спажывец з вялікай гатоўнасьцю і з ахвотаю адмовіцца ад паўпроцанта эканоміі, абы толькі ня траціць марна цэлыя гадзіны ў чаргах, ня губіць свайго часу і свайго здароўя.

Гэтае зусім законнае заданьне нашага спажыўца, нашага пайшчыка павінна быць абавязкова выканана.

# ПРАКТЫКА НАШАЙ ПРАЦЫ

Рафаіль Фрыдлянд

## Каапэраваньне і абслугоўваньне беднаты крэдытам

У нашай народнай гаспадарцы каапэрацыя накіроўвае дробную вытворчасьць да сацыялістычных форм. Сельска-гаспадарчая каапэрацыя перашкаджае разьвіцьцю капіталістычных адносін і эксплёатацыі ў сельскай гаспадарцы, арганізоўваючы абграмаджаную вытворчасьць, абграмаджанае забесьпячэньне і збыт, адначасова вырываючы дробных вытворцаў-сялян з-пад уплыву дробнага гандлёвага і прамысловага капіталу.

Бедната ня мае магчымасьці самастойна ўзьняць сваю гаспадарку, і эканамічнае становішча штурхае яе да перакупшчыка-прыватніка для атрыманьня крэдытаў і збыту свае прадукцыі. Гэта своечасова было адзначана партыяй, якая яшчэ ў часе XIV партканфэрэнцыі высунула на першы плян працу па арганізацыі дапамогі бядняцкім гаспадаркам вёскі. У гэтай працы каапэрацыя павінна заняць і фактычна займае першае месца.

У 1927-28 г., пасьля XV зьезду, больш шырока была разгорнута праца па каапэраваньні і абслугоўваньні беднаты пры дапамозе мясцовых партыйных і савецкіх органаў. Так, паводле даных 117 с/г крэдытных таварыстваў (з ліку 206, што існуюць у БССР на 1/X 1927 г.) відаць, што ў часе перавыбарчае кампаніі 1927-28 г. імі былі праведзены 423 сходы беднаты, на якіх прысутнічала 78,4 проц. беднаты (у тым ліку 58,2 проц. пайшчыкаў) і 21,6 проц. сераднякоў. Значная колькасьць беднякоў абрана ўпаўнаважанымы сыстэмы с/г каапэрацыі, што відаць з наступных лічбаў па 145 с/г крэд. таварыствах:

| Агульны лік аб'яднаньняў | Паступіла даных ад с/г каапэрац. аб'яднаньняў | Выбрана ўпаўнаважаных | Зьявіліся | % яўкі 27-28 | З ліку тых, што зьявіліся | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Беднякоў | Серадняков | Заможных | Жанчын | Членаў КП(б)Б |
| 206 | 145 | 13.456 | 9.610 | 709 | 3.629 | 5.480 | 501 | 326 | 987 |
| У %% | 70,4 | | | | 37,8 | 57 | 5,2 | 3,4 | 10,3 |

Ня гледзячы на такі значны ўдзел беднаты, удзельная вага яе ў складзе выбарчых органаў с/г каапэрацыі ў 1927-28 г. у параўнаньні з 1926-27 г. зьменшылася, што тлумачыцца значным павялічэньнем ліку серадняков адначасова з памяншэньнем ліку заможных, а таксама зьмененаю паказьнікаў беднаты (у 1926-27 г. да беднаты адносіліся і тыя гаспадаркі, якія маюць па 1 раб. жывёле; у лістападзе 1927 г., пасьля нарады пры Белсельсаюзе, да беднаты аднесьлі беспасеўных, з пасевам да 2 дзес., бясконных, бескароўных, уласьнікаў аднае каровы).

Гаспадарчае становішча каапэраванага сялянства паляпшаецца і дзеля гэтага лік беднаты памяншаецца як сярод пайшчыкаў, так і ў выбарчых органах. Аб гэтым таксама гавораць лічбы разьмеркаваньня паасобных членаў у с/г крэдытнай сетцы БССР паводле велічыні пасеўнае плошчы, забясьпечанасьці коньмі і каровамі.

**Разьмеркаваньне членаў с/г крэдытнай сеткі**

А. Паводле пасеўнай плошчы.

| | Безпас. | З пасевам да 2 дзес. | Ад 2 да 4 | Ад 4 да 6 | Ад 6 да 8 | Ад 8 да 16 | Звыш 16 дзесяцін |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1/X 1926 г. . . | 3,6 | 19,1 | 29,9 | 25,8 | 12,7 | 7,7 | 1,2 |
| 1/X 1927 г. . . | 3,4 | 26,4 | 34,7 | 21,0 | 9,3 | 4,7 | 0,5 |

Б. Паводле забясьпечанасьці коньмі.

| | Без. раб. жыв. | З 1 канём | З 2 коньмі | З 3 коньмі і больш |
|---|---|---|---|---|
| На 1/X 1926 г. . . . . . . . | 22,3 | 59,5 | 15,2 | 3,0 |
| На 1/X 1927 г. . . . . . . . | 18,8 | 64,0 | 14,8 | 2,4 |

В. Паводле забясьпечанасьці каровамі.

| | Без кароў | З 1 кар. | З 2 каровамі | З 3 каров. | З 4 і больш каровамі |
|---|---|---|---|---|---|
| На 1/X 1926 г. . . | 10,6 | 45,7 | 31,7 | 9,5 | 2,5 |
| На 1/X 1927 г. . . | 9,5 | 48,8 | 31,2 | 8,1 | 2,4 |

Наогул у сыстэме крэдытнай с/г каапэрацыі сацыяльны склад пайшчыкаў зьяўляецца наступным: беднякоў—35,5 проц.. серадн якоў—56,2 проц. і заможных—8,3 проц.

Па малочных арцелях склад пайшчыкаў паводле таго-ж камбініраванага прынцыпу гэткі: беднякоў—22,4 проц , серадн якоў—65,5 проц , заможных—12,1 проц.

Значныя посьпехі маюцца ў працы па кампляктаваньні калгасаў, насельніцтва якіх паводле свайго сацыяльнага становішча разьмяркоўваецца наступным парадкам: сялян беднякоў—52,5 проц., батракоў—30,5 проц., і іншых—17,0 проц. Гэта значыць, што 83 проц. насельніцтва, калі яно ўступіла членамі калгасаў, фактычна зьяўлялася беднатой.

За 1926-27 г. сел.-гасп. крэдытнай сеткай БССР каапэравана 9.628 бядняцкіх гаспадарак. На гэтую мэту ў працягу году было вылучана 33.223 р., з якіх на аплату паявых і ўступных узносаў выдана 19.672 р., і засталося нявыкарыстанымі 13.551 руб. Паводле даных 1/I 1928 г. каапэравана 14.486 бядняцкіх гаспадарак, на што звыдаткавана 28.904 р. Пры правядзеньні перавыбарчае кампаніі 1927-28 г. амаль што ў усіх рэнтабэльных с/г каапэратывах ставілася пытаньне аб арганізацыі фондаў па каапэраваньні беднаты. У сучасны момант няма поўных вестак пра разьмеры вызначаных на гэтую мэту сродкаў. Паводле тых даных, якія ёсьць, яны ўжо складаюць 22.527 руб.; Белсельсаюзам вызначаны 4.900 р., Белсельбанкам—70.000 руб. (44.000 руб. на каапэраваньне беднаты сел.-гасп. крэдытнай сеткаю і 26.000 руб., вытворчымі аб'яднаньнямі); акруговымі таварыствамі с/г крэдыту з сваіх уласных сродкаў вызначана 23.438 руб., а ўсяго сыстэмай с/г крэдыту (яе рэспубліканскімі і акруговымі зьвянкамі)—93.438 руб. Гомельскі акруговы саюз с/г каапэрацыі вызначаў 4.469 руб. Такім чынам, па ўсёй сыстэме с/г каапэрацыі і с/г крэдыту было вызначана ў гэтым годзе 125.334 руб. З астачай у 138.885 руб., усе гэтыя сродкі згодна пастановы лютаўскага пленуму ЦК КП(б)Б павінны быць скарыстанымі не пазьней 1 чэрвеня 1928 г. На гэтыя фонды меркавалася ўцягнуць у сыстэму сел.-гасп. каапэрацыі ня менш 27.775 бядняцкіх сялянскіх гаспадарак.

І вось, з аднаго боку, мы маем нібыта значныя сумы, на якія ўцягнута ў каапэрацыю значная колькасьць беднаты. Але гэтыя лічбы яшчэ значна адстаюць ад плянавых меркаваньняў Белсельсаюзу на 1927-28 г., паводле якіх павінна быць уцягнута ў крэдытную сетку каля 50 проц. членаў, ці 40.000 (ад 79.880), і ў вытворчыя аб'яднаньні—50-60 проц., ці каля 30.000, а ўсяго 70.000 беднякоў. Такім чынам 42.000 беднякоў (70 т.—28 т.) мяркуецца ўцягнуць не за кошт вылучаных фондаў, якіх ня хопіць, а за сродкі самога бядняцкага насельніцтва; гэта, бязумоўна, будзе перашкаджаць працы с/г. каапэрацыі ў гэтым напрамку і ствараць небясьпеку недавыканананьня пляну.

З другога боку, гэтыя 42.000 бядняцкіх гаспадарак неабходна ўцягнуць у сыстэму с/г. каапэрацыі. Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы: паводле даных ЦКУ на 1/X 1927 г. па ўсёй БССР маюцца 228.822 бядняцкія гаспадаркі, якія разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| Сялянскія гаспадаркі чырвонаарм. | Сялянск. інв. вайны і працы | Гаспад. удоў-бяднячак | Пагарэльц. і інш. стыхійных бед. | Бяскон-ных | Бескароў-ных | Інш. беднякоў, звольненых ад с/г падатку, акрамя пера-ліч. | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 13.075<br>5,7% | 15.481<br>6,7% | 23.969<br>10,5% | 18.579<br>8,1% | 48.857<br>21,4% | 22.402<br>9,8% | 86.458<br>37,8% | 228.822<br>100% |

Улічваючы тое, што на 1/X 1927 г. у сыстэму с/г. каапэрацыі ўцягнута беднаты каля 100.000+28.000 пасьля 1/X 1927 г. да сучаснага моманту, а ўсяго 100.000 бядняцкіх гаспадарак, такім чынам, неабходнасьць каапэраваньня 42.000 беднякоў зьяўляецца рэальнай лічбай. Справа за сродкамі.

Побач з гэтым бываюць выпадкі скарыстаньня фонду на каапэраваньне беднаты на іншыя мэты. Гэта адзначана ў матар'ялах с/г. каапэрацыі Аршанскай акругі (гл. „Шлях Коопэрацыі"), але гэта мае месца ў выніку нядбайных адносін с/г крэдытных таварыстваў да значнага палітычнага пытаньня, і за гэта яны нясуць адпаведную адказнасьць.

Неабходна яшчэ застанавіцца на сацыяльным напрамку крэдытаў с/г. крэдытнай сеткі БССР. Паводле справаздачы БСБ за 1926-27 г. відаць, што астача крэдытаў нізоўкі на 1/X 1927 г. у суме 10.518. 100 рублёў размяркоўваецца так: спэцыяльным відам с/г каапэрацыі—4,3 проц., іншым кліентам—3,7 проц. і паадзінкавым сялянскім гаспадаркам—92 проц., з якіх доўгатэрміновых пазык—47,6 проц. і кароткатэрміновых—52,4 проц. Напрамак крэдытаў паасобным сялянскім гаспадаркам паводле іх сацыяльна-эканамічнага складу зьяўляецца наступным:

| ГРУПЫ ГАСПАДАРАК | У %% да ўсяе сумы: | | | | | | | Сума запазычанасьці на 1 чл. у сярэднім у руб. | | %% прыросту |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго сялянск. гаспадарак у БССР | Членаў т-ваў | | Пазычк. т-ваў | | Сума запаз. | | | | |
| | | 1/X 1926 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1926 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1926 г. | 1/X 1927 г. | 1/X 1926 г | 1/X 1927 г. | |
| Бядняцкія . . . . | 27,4 | 33,8 | 35,7 | 37,2 | 36,1 | 37,5 | 37,5 | 40,4 | 54,1 | 34 |
| Серадняцкія . . . | 69,9 | 61,5 | 61,1 | 59,2 | 61,5 | 58,1 | 59,8 | 39,2 | 50,6 | 29 |
| Заможніцкія . . . | 2,7 | 4,7 | 3,2 | 3,6 | 3,4 | 4,4 | 2,7 | 48,9 | 59,9 | 22 |

Такім чынам, беднаце выдаецца пазык некалькі больш яе ўдзельнай вагі сярод каапэраваных (37 5 проц. супроць 35,7 проц.), і сярэдні памер

пазыкі на аднаго бедняка перавышае сярэдні памер пазыкі серадняку (54 проц. супроць 50,6 проц.), але ўступае заможнаму (59,9), удзельная вага якога сярод каапэраваных амаль што знаходзіцца ў адпаведнасьці з пазыкамі, якія ён атрымлівае (2,7 проц.; 3,2 проц.).

Адначасова трэба падкрэсьліць, што ў сярэднім карыстаюцца крэдытамі каля 1/5 ўсіх сялянскіх гаспадарак, пры чым гаспадарак, якія бяруць крэдыты ў прыватных асоб, па ўсёй БССР маецца 11 проц., а па УССР —10 проц, па РСФСР—7 проц. (даныя ЦСУ СССР „Статистическое обозрение“ за сакавік 1928 году). Процант гаспадарак, якія бяруць пазыкі ў прыватных асоб, перавышае амаль што ў 10 раз процант тых гаспадарак, якія даюць гэтыя пазыкі; гэта значыць, што бедната карыстаецца прыватным крэдытам, асабліва таварным, які зьяўляецца цяжкім для пазычальніка і выгадным для крэдытора, які мае запасы с/г прадуктаў і выйгрывае на розьніцы рынкавых цэн.

Значыць, неабходна большае кола беднаты ахапіць крэдытамі, уцягваючы беднату ў крэдытную сетку шляхам каапэраваньня за лік фондаў, забясьпечыць яе ад эксплёатацыі ліхвяра, як па ліку спажывецкага, так і пазычковага крэдыту. Адгэтуль вынікае неабходнасьць аб‘яднаньня гэтых дзьвюх асноўных галін абслугоўваньня бядняцка-серадняцкай сялянскай масы, бо рэгуляваньне было-б значна лепшае, у сучасны момант, калі таварныя і крэдытныя апэрацыі знаходзяцца ў розных установах (сельска-гаспадарчых саюзах і акруговых т-вах с/г крэдыту) і падвойны ўплыў перашкаджае працы.

Арганізацыя крэдытных саюзаў у РСФСР і УССР гаворыць аб значна палепшанай працы, як у напрамку абслугоўваньня беднаты, так і ў самой сыстэме сел.-гасп. каапэрацыі. Практыка арганізацыі Менскага акруговага крэдыт-саюзу ў гэтым годзе павінна і ў БССР быць вяшчуном новых крэдытсаюзаў ва ўсіх акругах БССР.

Вакол пытаньня каапэраваньня і абслугоўваньня беднаты трэба мабілізаваць нашу грамадзкую думку і дабіцца яшчэ большых посьпехаў.

---

**Прысутны**

# Вынікі III сэсіі савету Белсампрамсаюзу

Апошнія 6—8 месяцаў зьяўляюцца для сампрамкаапэрацыі БССР пэрыодам буйнага росту. Калі на 1/X—1927 г. налічвалася па БССР 280 арцеляй, то на 1/IV—1928 г. маецца ўжо 512. Агульны рост ліку членаў арцеляй, які ідзе галоўным чынам за лік беднякоў-саматужнікаў, складае на апошні час значную колькасьць у 36.000 чалавек,—75 проц. адносна колькасьці рабочых, занятых у прамысловасьці БССР. Рост за апошні час больш як на 200 проц.

Ясна дзеля гэтага, наколькі сваечасова і важна для кіраўнічых установаў гэткае складанае сыстэмы, як сампрамкаапэрацыя, праверыць мэтады свае працы адносна больш поўнага ахопу кіраўніцтвам свае нізоўкі.

Апошняя сэсія якраз занялася вырашэньнем асноўных задач, якія стаяць у сучасны момант перад сампрамкаапэрацыяй. Гэтыя задачы, з аднаго боку, асабліва ўскладняюцца ў зьвязку з апошняй пастановаю СНК СССР ад 21/V—1928 г., дзе на сампрамкаапэрацыю ўскладаюцца даволі важныя абавязкі па разьвіцьці цэлага шэрагу промыслаў, якія да гэтага часу яшчэ не ахоплены дзяржаўнай прамысловасьцю. З другога боку, гэтая пастанова дае вельмі важныя ільготы для разьвіцьця наяўных промыслаў, як, напрыклад, галянтарэйна-скураных, страўна-смакавых і г. д.

Гэтай пастановай падкрэсьліваецца, што шмат з мінулага заканадаўства па пытаньні сампрамкаапэрацыі яшчэ ня выканана цэлым шэрагам дзяржаўных органаў, якія павінны будуць у бліжэйшыя часы ня толькі выканаць папярэднія пастановы, але і дапамагчы, і моцна дапамагчы, сампрамкаапэрацыі заняць тое месца, якое ёй адведзена згодна з гэтай пастановаю.

У ўмовах беларускае сапраўднасьці асаблівае разьвіцьцё сампрамкаапэрацыя атрымае ў галіне галянтарэйнай, што вельмі правільна падкрэсьлена дакладчыкам па пытаньні аб задачах сампрамкаапэрацыі БССР на бліжэйшыя гады, старшынёю праўленьня Белсампрамсаюзу т. Мар'ясіным, які давёў, што Беларусь павінна быць „маленькаю Варшавай" для ўсяе нашае СССР па дастаўцы галянтарэі.

Большае разьвіцьцё павінен атрымаць спэцыфічны для беларускае вёскі смалакурны промысел. Неабходна пашырыць мастацка-ткацкі промысел, які мае пэрспэктывы для разьвіцьця, сабраць раскіданых ткачоў і ткачых у агульныя майстэрні.

Па пытаньні аб разьвіцьці наяўных у нашай рэспубліцы промыслаў трэба адзначыць, што гэтаму апошняму перашкаджае кепская якасьць прадуктаў (напр., апошні выпадак з адпраўленым у Пензу адзеньнем, якое аказалася вельмі дрэннае якасьці, што бязумоўна перашкаджае разьвіцьцю масавае вытворчасьці ў нашых кравецкіх арцелях); з другога боку, заўважваецца невыкананьне умоў па забесьпячэньні і збыце з боку Скурсындыкату і з боку Белкаапсаюзу.

Пытаньнем сёньняшняга дня зьяўляецца неабходнасьць мэханізацыі промыслаў, асабліва ў тых арцелях, якія налічваюць шмат членаў, як, напр., шавецкія, швейныя і г. д. Мэханізацыя і рацыяналізацыя нашых асноўных галін вытворчасьці дасьць магчымасьць выканаць дырэктыву аб зьніжэньні сабекошту прадукцыі.

Усе гэтыя маленькія і вялікія задачы магчыма будзе ажыцьцявіць толькі пры поўным падтрыманьні з боку нашых гаспадарчых органаў, у першую чаргу, і пры наяўнасьці добра складзенага апарату. Трэба рашуча і як найхутчэй узяцца за справу якаснага ўзмацненьня колькаснага росту сампрамкаапэрацыі.

Пытаньне культпрацы неабходна таксама паставіць у рамкі плянавага кіраўніцтва. Наяўныя ў нашых газэтах старонкі сампрамкаапэрацыі сабралі значны актыў. Гэтае дасягненьне трэба разьвіць і праз прэсу, праз газэты сканцэнтраваць кадр рабкораў, якія дапамаглі-б выкрыць нездаровыя хібы ў каапэрацыйных арцелях. Неабходна разьвіць цэлы шэраг курсаў, дзе-б можна было перакваліфікаваць тых саматужнікаў, прафэсія якіх ня мае пэрспэктыў. Таксама неабходна правесьці культасьветную працу сярод старшынь праўленьняў і сяброў рэўкамісій і г. д.

Таварышы, якія выступалі ў спрэчках па гэтым пытаньні, падкрэсьлілі неабходнасьць правядзеньня больш поўнага кіраўніцтва з боку вышэйшых арганізацый.

Па пытаньні аб капіталанамнажэньні з дакладам выступіў інструктар Белсампрамсаюзу т. Камлач, які высунуў, як асноўную задачу, павышэньне паю для асобных промыслаў, устанавіў градацыю для арцеляй гораду, мястэчка і вёскі. Пай ў таварыствах трэба давесьці да 15 руб., а на таварныя апэрацыі ня менш 5 руб. Для саматужнікаў, якія атрымліваюць крэдыт больш як 200 руб., трэба ўстанавіць другі пай. Ня менш 20 проц. атрыманых паявых ўзносаў нізавая сетка павінна перадаваць у Белсампрамсаюз.

Разьмер намнажэньня трэба ўстанавіць, замест 2 проц., ня менш 3 проц. сабекошту.

Па дакладах сяброў таварыстваў павінны быць распрацаваны кантрольныя лічбы таксама па арцелях.



Вельмі важнай праблемай зьяўляецца мэханізацыя промыслаў, якая зараз праводзіцца. Трэба будзе ўвесьці спэцыяльны заём мэханізацыі. Неабходна дабіцца, каб дзяржава таксама вылучыла сродкі для рэканструкцыі промыслаў.

Узмацаваньне плянавасьці ў працы арцеляй і кіраўнічых органаў сампрамсаюзаў таксама павінна падняць капітальнае ўкладаньне ў вытворчасьць.

Пытаньню аб упарадкаваньні мястэчак на сэсіі гэтак сама была аддана значная ўвага. Нам. старшыні праўленьня Белсампрамсаюзу тав. Ліёкумовіч коратка інфармаваў прысутных з тым, як абстаіць гэтая справа.

Дзяржавай на гэтую мэту адпушчана па доўгатэрміновым крэдыце 190.284 руб. і па кароткатэрміновым 92.244 руб. Калі да гэтага дадаць адпушчаныя праўленьнем Белсампрамсаюзу 40.000 руб., то трэба адзначыць, што гэта вельмі значнае мерапрыемства, якое дапаможа мястэчку ўзьняць свой гаспадарчы ўзровень. У апошні час гэтыя грошы атрыманы і разьмяркованы па акругах. Трэба толькі, каб месцы досыць сумленна аднесьліся да правядзеньня практычных мерапрыемстваў па выдаткаваньні гэтых сродкаў.

Сэсіяй таксама быў разгледжаны балянс і разьмяркованы прыбыткі за 1927-28 г. у суме 32.732 руб. 35 кап., якія пашлі на розныя фонды (па каапэраваньні беднаты, на культфонды і г. д).

Пастаноўлена ў першых чыслах верасьня склікаць сход упаўнаважаных Менскае і Аршанскае акругі.

Вырашана таксама ўвайсьці с сябры Ўсекампрасамсавету СССР.

Пастановы, вынесеныя па асноўных дакладах сэсіі, пры выкананьні Белсампрамсаюзам і месцамі гарантуюць правільны напрамак дзейнасьці сампрамкаапэрацыі БССР, у адпаведнасьці з наяўнымі дырэктывамі і пастановамі партыі і ўлады.

---

**Мар'ясін**

# Бліжэйшыя задачы саматужпрамкаапэрацыі і пытаньні культпрацы

(*Даклад на III сэсіі савету Белсаматужпрамсаюзу*)

Сучасны момант больш як калі-небудзь абавязвае нас шырэй і глыбей паставіць усе задачы і праблемы, якія партыя і савецкая ўлада ставяць перад саматужпрамкаапэрацыяй. Для таго, каб сьцвердзіць гэтую думку, досыць падумаць над новым майскім дэкрэтам 1928 году СНК СССР. У гэтым дэкрэце шырока разьвінаецца фронт для працы ў галіне прамкаапэрацыі. У дэкрэце ўпамінаецца, што многае з мінулага законадаўства яшчэ ня выканана, дэкрэтам высоўваецца цэлы шэраг новых праблем, з якімі мы павінны справіцца. Апроч таго, за апошні час мы маем яшчэ рэзалюцыю па дакладзе саматужкамітэту ВСНГ СССР, дзе, між іншым, праводзіцца адна думка, але яе, па-мойму, нельга прыняць нам.

Тов. Эпэльбаум з саматужкамітэту, які абсьледваў нашу беларускую саматужную прамысловасьць, даходзіць да некаторае гіпэрбалічнасьці, кажучы, што дзяржаўная і мясцовая прамысловасьць у нас можа разьвівацца і пашырацца толькі ў тых галінах, дзе саматужная прамысловасьць не займае пазыцый, бо там, дзе яна іх займае, няма чаго рабіць другім. Гэта адна крайнасьць. А вось і другая:

Нядаўна было выступленьне аднаго работніка Саўнаргаса прыблізна такога характару, што саматужпрамысловасьць павінна перавярнуцца ў нейкі прыдатак дзяржпрамысловасьці. Зразумела, што мы зьяўляемся дапаўненьнем да дзяржаўнае прамысловасьці, але нейкім невядомым прыдактам нас трудна абазваць. Для прыкладу дам адну характэрную лічбу. На сёньняшні дзень лік працоўных, арганізаваных у саматужпрамкаапэрацыі Беларусі, складае 70 проц. ліку рабочых, арганізаваных у вытворчых прафсаюзах. Гэта гаворыць аб тым, што аб нас, як аб нейкім прыдатку, нельга і думаць.

У сучасны момант мы маем перад сабою стройную сыстэму, пачынаючы ад цэнтра і канчаючы самою нізоўкаю, пры чым маем яшчэ і надзвычайна добрае зьявішча—26 проц. саматужнае масы каапэравана ў калектыўны сэктар, г. зн. у арцелі.

Аднак, мы павінны памятаць, што $^{3}/_{4}$ усяе масы яшчэ не ахоплена арцелямі, гэта раз. З другога боку, мы ведаем, што цэлы шэраг асобных саматужнікаў-адзінак нават не ахоплены наогул нашаю каапэрацыйнаю сыстэмаю. У Беларусі мы маем яшчэ новыя элемэнты, якія імкнуцца да нас, выціснутыя з розных эканамічных пазіцый, і якія ўсё больш абхопліваюцца моцнаю многасыстэмнаю каапэрацыяй Беларусі. Усё гэта перад намі ставіць яшчэ большыя задачы пашырэньня нашае працы. Мы павінны ўзмацніць тыя арцелі, якія ў нас ёсьць, і будаваць новыя; мы павінны даць адказ на ўсе бясконцыя запытаньні новых мас, якія напіраюць на нас.

Ні для кога не сэкрэт, што калі-б мы мелі жылплошчу, сыравінныя і крэдытныя рэсурсы, то маглі-б праз 2—3 месяцы падвоіць нашу лічбу каапэраваньня. Гэта ня будзе перавялічэньнем. Мы павінны ставіць перад сабою задачу на бліжэйшы пэрыод—усё што магчыма ахапіць.

Цяпер беспасярэдна аб далейшых нашых задачах. Характэрна тое, што дэкрэт ад 21 мая ясна і цьвёрда гаворыць, што разьвіцьцё саматужнае прамысловасьці павінна ісьці па двух лініях: як па лініі дэфіцытнае сыравіны, так і па лініі недэфіцытнае сыравіны мясцовага значэньня.

Як-бы мы ні шукалі новых спосабаў разьвіцьця прамысловае каапэрацыі (а мы іх будзем шукаць), усё-ж трэба памятаць, што асноўная маса ў нас знаходзіцца ў промыслах, якія налічваюць дзесяткі год свайго разьвіцьця. Гэта прамысловасьць: швальная, абутковая, часткова скураная і дрэваапрацоўчая. Я не падкрэсьліваю лесапрамысловай, якую мы павінны старацца як можна звузіць. Да нас якраз падыходзіць момант узмацненьня промыслаў на дэфіцытнай сыравіне, гэта адзін бок; другі—мы маем найвялікшую ініцыятыву саматужнікаў і тых, якія ў апошні час зрабіліся саматужнікамі ці зьбіраюцца стаць імі.

Дзякуючы ўсяму гэтаму мы маем элемэнты, якія ў той ці іншай ступені былі зьвязаны з рознымі рамяствамі, якія раней ня былі разьвіты ў нас, напрыклад, галянтарэйная справа. Раней мы атрымоўвалі галянтарэю з Лодзі, Варшавы і Беластоку. Цяпер Беларусь павінна стаць, і часткова ўжо стала, калі можна так сказаць, маленькаю Варшаваю ў гэтых адносінах. Пералічу для прыкладу прамысловасьці: грэбенную, гузікавую, цэлы шэраг вырабаў усялякіх пражак, прыладаў, скураную, люстраную і інш. Далей у Беларусі мы маем цэлы шэраг промыслаў, якія мелі некалі вялікае значэньне па колькасьці занятых у іх рабочых рук. Гэта вясковыя промыслы—вялікая колькасьць усялякіх мастацкіх тканін, выраб якіх у апошні час заглох. Гэтыя галіны прамысловасьці павінны падымацца на сваю даўнейшую вышыню, а часткова яны ўжо падняліся.

Беларусь была досыць багатая промыслам смалакурным, а ў гады войнаў—імпэрыялістычнае і грамадзянскае—гэты промысел быў разбураны.

Зараз смалакурная прамысловасьць зрабіла вялікі скачок уверх, яе развіцьцё ідзе гіганскімі крокамі наперад, і не далёка той час, калі мы перашагнём даваенны ўзровень.

Як бачыце, таварышы, усе гэтыя элемэнты ў сваёй складанасьці даюць дастатковы адказ на тыя праблемы, якія перад намі стаяць.

Само сабою зразумела, што ніхто сябе не ашуквае забесьпячэньнем, хоць яно і прадбачыцца ў дэкрэце. Саюзны ўрад дае ўстаноўку на цэлы шэраг год наперад, і трэба думаць, што ў бліжэйшыя гады мы зможам нашы запатрабаваньні і заяўкі павялічыць,—пры ўліку збыту і нашых крэдытных грашовых рэсурсаў.

Беспрацоўе саматужнікаў, якія зноў прыходзяць да нас дзякуючы аграрнай перанасялёнасьці вёскі і наяўнасьці вольных рабочых рук у ёй, таксама гаворыць за пашырэньне нашае працы.

Мне хочацца паказаць на адзін характэрны працэс, які маецца ва ўсіх акругах і ў Менску. Калі мы гаворым аб нашых посьпехах, аб павялічэньні ўсіх лічбаў росту, то трэба прызнацца, што гэты працэс росту не зьяўляецца выключна нашаю заслугаю. Разьвіцьцё гэтага працэсу большаю часткаю ішло па ініцыятыве самое масы. Часта мы былі ў хвасьце і толькі крышку памагалі ёй. Гэта трэба прызнаць хоць-бы для таго, каб у будучы час мы маглі ясна ўявіць сабе нашую мэту. Я, вядома, не гавару аб унутраной працы, аб самой нашай каапэрацыі,—аб арцелях, т-вах і г. д. Ці ўсё там адпаведна лёзунгам нашае партыі? Тут і пытаньні каапэраваньня беднаты, уцягваньне моладзі, увага да жаночае працы. Рэч вядомая, тут ёсьць у нас шмат недахопаў. Мы знаем аб тым, што праца ня ўсюды пастаўлена сыстэматычна. Але ўсё-ж такі мы маем посьпехі ў нізоўцы ў параўнаньні з тым, што было ў пачатку нашае арганізацыі. Перад намі перш за ўсё вырастае шырокая і глыбокая задача плянавасьці. Мы ня можам пахваліцца тым, што ўсё ў нас плянавае. Нават сёньня ў гутарцы з прадстаўніком ВСНГБ наконт нашае работы было сказана: «нашае пяцігодкі мы яшчэ не прадставілі, у той час калі саюзны ВСНГ ужо разгледзеў пяцігодку нашага ВСНГ». Слаба, вядома, у нас і дысцыпліна. Але нельга гаварыць аб гэтым, не ўпамянуўшы аб слабасьці нашых акруговых аддзелаў.

Адначасова зараз-жа трэба паставіць рубам пытаньне аб вытворчым пачатку. Няма ў нас вытворчага кіраўніцтва. У нас ёсьць добрыя каапэрацыйныя інструктары, але няма вытворчых інструктароў. Для прыкладу скажу, што ў галіне лесахэмічнае прамысловасьці мы хутка перагонім многія арганізацыі, якія працуюць у гэтай галіне побач з намі. Але хто яе разьвівае ў нас?—Дылетант-смалакур ці мізэрненькі практыкант-смалакур? У нас быў характэрны выпадак: Гомель задумаў пабудову каніфольнага заводу і запрасіў у нас некаторых паказаньняў, а мы, вядома, ня ведалі што адказаць. Я гэта даю як прыклад, што вытворчы пачатак у нас, абсалютна слабы, а перад намі стаяць найвялікшыя задачы.

Нам трэба адначасова пагаманіць сёньня і прыняць адпаведныя рашэньні аб збыце, які ўпіраецца часта ў многія тупікі.

Дзякуючы пастановам Саўнаркому і эканамічнае нарады мы пашырылі некаторыя галіны вытворчасьці, як: абутковую, бляшаную і дрэваапрацоўчую. Але мы наткнуліся на такое зьявішча, калі каапэрацыя наша не забірае ў нас нашае прадукцыі. Гэта было ў Менску, Віцебску, і мы сталі перад фактам затаварваньня, а гэта роўналежна часоваму замярзаньню. Таму вось мы павінны паставіць перад адпаведнымі плянавымі эканамічнымі органамі Беларусі пытаньне аб тым, што наша прадукцыя павінна быць забрана, калі, вядома, яна будзе адпавядаць якасьці прадукцыі. Таварышы, трэба сказаць цьвёрда і падкрэсьліць, што якасьць нашае прадукцыі за апошні час у некаторых мясцох дала шчыліну. Гэта тлумачыцца тым, што некаторыя арцелі гналіся за павялічэньнем зарплаты. Выхад на надворны рынак нам як-бы зачынілі. Нам забаранілі мець свайго прадстаўніка ў Маскве, які зьвязаўся-б з многімі арганізацыямі. Пытаньні збыту ў нас павінны заняць важнае месца, і сэсія павінна сказаць цьвёрдае слова, як павінен пайсьці наш збыт. Збыт, вядома, павінен быць арганізаваны і цэнтралізаваны праз нас—праз Белсампрамсаюз.

Ня меншае значэньне за пытаньні збыту і забесьпячэньня мае і пытаньне аб крэдыце.

На пытаньні аб капіталанамнажэньні я падрабязна супыняцца ня буду, але ўсё-такі хачу сказаць некалькі слоў. Рост, які мы маем, ня ідзе ў унісон з нашымі крэдытна-грашовымі магчымасьцямі. Ёсьць выпадкі, калі нашы арцелі і нізавыя зьвенчакі ідуць за крэдытам да прыватніка і плацяць за гэта 20—30 проц. Мы ведаем такія зьявішчы, калі за адсутнасьцю банкавага ліміту па кароткатэрміновым крэдытаваньні прыходзіцца затрымліваць зарплату для каапэраваных саматужнікаў, а мы ведаем, што гэта не пажадана ў сучасны момант. Таму-та пытаньні крэдытаваньня, якія прадугледжваюцца ў дэкрэце, павінны заняць вялікае месца як у сэнсе банкаўскага кароткатэрміновага і доўгатэрміновага крэдытаваньня, так і ўсялякіх пазык мэтавых на спэцыяльныя патрэбы, на сыравіну і г. д. Наколькі дэкрэт прадугледжвае моманты крэдыту, і наколькі мы маем пастанову нашых мясцовых органаў, мы павінны нашы крэдытныя заяўкі будаваць у пашыраным выглядзе. Вядома, мы добра ведаем, што не заўсёды нашы жаданьні ідуць поруч з нашымі магчымасьцямі. Але я думаю, што супыняць нас гэта не павінна. Мы павінны рабіць так, каб у наступным гаспадарчым годзе мы ня мелі патрэбы ў крэдытах для пашырэньня прамкаапэрацыі, як гэта было летась.

Адначасова трэба выявіць і другі момант, які зьвязаны з нашаю працай—гэта пытаньне наконт адсутнасьці памяшканьняў. У нас, бачыце, няма спэцыяльных фондаў для будаўніцтва. Жылплошча наша абмяжавана. Акрвыканком у гэтым нам павінен дапамагчы.

Саматужніцкая каапэрацыя толькі тады можа мець будучыну, калі яна будзе адпавядаць рынку ў сэнсе цэн. Адгэтуль вынікае пытаньне патаненьня. А працэс патаненьня шчыльна ўпіраецца ў некаторую хоць-бы мэханізацыю і ў няўхільнае ўзбуйненьне арцеляў.

Мы павінны ставіць пытаньне і аб утварэньні ўласных будаўнічых фондаў. Я хачу сказаць, што пры ўтварэньні такіх фондаў ёсьць надзея на тое, што мы сёе-тое атрымаем. Некаторыя сродкі на гэта мы ўжо атрымалі, але не скарысталі. Адзін з акруговых саюзаў атрымаў на будаўніцтва вялікія грошы і скарыстаў іх на іншыя патрэбы (Бабруйскі саюз). Такія зьявішчы недапушчальныя.

Пытаньні забесьпячэньня, пашырэньня плянавага ахопу вытворчасьці, ахоп каапэраваньнем, арганізованы збыт—вось тыя падважнікі, дзякуючы якім мы зможам рухацца далей.

Пры росьце трэба памятаць і аб клясавых задачах, якія стаяць перад намі. Трэба памятаць, што бедната нашаю сыстэмаю ахоплена недастаткова. Зрабілася гэта таму, што серадняк-саматужнік, кулак-саматужнік былі хітрэйшымі—загадзя ўлічылі ўсе выгады і пашлі ў арцелі, а бядняк спужаўся. Цяпер ён хоча ісьці, але месцы занятыя, а рэсурсаў у нас не хапае. Пры чым мы ведаем, што паявых узносаў многія не маглі ўносіць. Ёсьць такія арцелі, якія замыкаюцца і ў іх зарабляюць да 200 і больш рублёў, а ёсьць дзесяткі тысяч людзей, якія хочуць увайсьці ў арцель, каб зарабіць хаця-б 50—60 руб.

Гэтая палітыка раскулачваньня некаторых арцеляў і павінна быць перад намі пастаўлена ва ўсёй шырыні.

Пытаньне ўцягненьня беднаты павінна перайсьці ад стадыі гутарак да стадыі рэальных фактаў.

Адначасова трэба сказаць, што ў сэнсе абслугоўваньня моладзі справа зусім дрэнная. Маюцца факты эксплёатацыі моладзі.

Не магу абмінуць адну нашу вялікую спробу, якая лопнула дзякуючы інэртнасьці нашых таварышаў. Я кажу аб разьвіцьці мастацкіх промыслаў у мэтах экспарту. Гэта ёсьць устаноўка партыі, гэта ёсьць строгая дырэктыва партыі, таму што пытаньне экспарту для нас зьяўляецца пытаньнем вялізнага значэньня. Праўда, мы наш экспартны плян выканалі на 100 проц. Але я лічу, што калі мы яго выканалі на 100 проц., то можна было выканаць на 130.

Мастацкія промыслы Беларусі павінны быць разьвіты. Мы дадзім пражу, варстаты, грошы, прыцягнем сялянскія рукі вёскі і местачковае насельніцтва. Мы пісалі аб гэтым лісты ўсім выканкомам, асабістыя лісты таварышам, але пакуль што нічога няма. Нам трэба паставіць сабе за мэту мець што-небудзь у гэтай галіне на той год.

У галіне культурнае працы ў нас амаль пустое месца. Няма чаго хваліцца тым, што ёсьць некаторыя храсткі. Нічога каштоўнага ў нас няма. Што мы разумеем пад культпрацай? Культпраца гэта ня толькі правядзеньне мітынгаў і дакладаў. Мы добра праводзім кампаніі; у нас некалькі садоў і клюбаў. Гэта добра. Але сыстэматычнае культурнае працы, якая-б была накіравана на кваліфікацыю, перакваліфікацыю, палітычнае развіцьцё, пісьменнасьць, у нас амаль няма. У нас няма нават спэцыяльных курсаў, саматужных тэхнікумаў. Кажуць аб сродках. Я лічу, што калі мы прыдзем да нашых савецкіх органаў—Наркамасьветы, Галоўпрафасьветы,—яны нас падтрымаюць.

Унутраная культпраца таксама вельмі слабая (насьценгазэты, удзел у друку); ёсьць некаторыя праблескі, але гэтага мала. Ёсьць некаторы зрух у справе ўдзелу ў яўрэйскім друку, але ў беларускім і расійскім нічога няма. Нашы беларускія таварышы нічога ня ведаюць аб саматужпрамкаапэрацыі і думаюць, што гэта яўрэйская каапэрацыя. Нам трэба ўзяць устаноўку на ўцягненьне ў нашу агульную сыстэму, тым больш у нашу культпрацу, вясковага бедняка і саматужніка.

Дзякуючы адсутнасьці культпрацы ў многіх выпадках у саматужнай каапэрацыі мы маем кулака, рабіна, клерыкалаў усіх масьцей. Вы ведаеце, якую барацьбу нам трэба весьці за маленькую заваёву ў сэнсе барацьбы з рэлігійнасьцю, з цемраю? У мястэчках саматужнік-бядняк перад вялікаднем ідзе за парадаю і дапамогаю да рабіна, у той час калі поруч ёсьць пазыка-ашчаднае т-ва.

Трэба культпрацу весьці ня толькі сваімі сіламі, але прыцягваць да гэтага і самых саматужнікаў.

Я хачу паказать на адну спробу, якая канчаткова яшчэ не праведзена. У Менску мы дагаварыліся аб вядзеньні культпрацы шляхам прыцягненьня ўсіх культурных сіл саматужнікаў. Трэба ўсюды прыцягваць самую саматужную масу. У нас ёсьць актыў, які вядзе работу разам з намі. Мы здолелі заваяваць старонку ў «Акцябры», і актыў добра кіруе ёю. Заява, што «мы самі ўсё зробім»—памылка, ад яе трэба адмовіцца. Масавая і штодзённая культпраца ў школах, клюбах, садох і г. д. павінна ісьці пры поўным удзеле саматужнае масы.

Трэба дабіцца працы над выхаваньнем дзяцей саматужнікаў. Яна ўвязваецца ў агульнай школе. Тут асабліва няма чаго рабіць. Дзіцячыя пляцоўкі, сады яшчэ не ахопліваюць дзяцей саматужнікаў. Трэба аб гэтым падумаць. У нас ёсьць культфонд, і трэба правільна і ўмела яго разьмеркаваць.

Пытаньне аб жылкаапэрацыі. Праўда, у дэкрэце аб гэтым гаворыцца неяк глуха, але мы павінны паставіць сабе мэтаю атрымаць з бюджэту некаторае крэдытаваньне для жылкаапэрацыі.

Бліжэйшыя гады павінны быць гадамі хаця-б маленькага пачатку жылбудаўніцтва. Гэта трэба зрабіць, бо запатрабаваньні нашы чым далей, тым больш узрастаюць.

Я не хачу распаўсюджвацца дэтальна наконт форм усяе культпрацы, яны самі знойдуцца, калі будзе ўцягнута сама маса. Мы лічым, што пры акругах, як і пры цэнтры, павінны быць утвораны культчасьці.

Цяпер адно пытаньне, яко ня можа ўсіх аднолькава цікавіць, але я яго стаўлю. Гэта пытаньне аб характары нашага апарату. Мы абслугоўваем Менскую і Аршанскую акругі, што часам шкодзіць разьвіцьцю саюзаў. Мы высоўваем праблему арганізацыі Менска-Аршанскага саюзу. Гэта дасьць нам магчымасьць больш плянава абслогоўваць усіх.

Рафаіл Фрыдлянд

# Становішча і праца сельска-гаспадарчай каапэрацыі Аршаншчыны

(*Працяг*)

## Становішча саюзу

Хаця плян саюзу па аргаддзеле саюзу выкананы за 1927 г. толькі на 60 проц., аднак ім праведзена вялікая праца па абсьледаваньні нізоўкі (с.-г. крэдытных т-ваў), пры 4-х інструктарох, з якіх на працягу месяца кожны быў на раёне 18,3 дні. Праведзена шэраг арганізацыйных нарад. Аргкалегіяй падрыхтоўваліся матар'ялы да пасяджэньня праўленьня саюзу. Але ў першай палове 1927-28 г. арганізацыйнае абслугоўваньне некалькі паслабілася. Ня складзены пляны працы. У цэлым аргаддзел слаба зьвязвае працу аддзелаў саюзу паміж сабой.

У першай палове 1927-28 г. звароты саюзу параўнальна з 1926-27 г. значна павялічыліся і амаль што абганяюць апошні:

| З в а р о т ы | За 1926-27 г. | %% | За 1 палову 1927-28 г. | %% | Адносіны I пал. 1927-28 г. да 1926-27 г. (у проц.) |
|---|---|---|---|---|---|
| I. Па дастаўцы: | | | | | |
| а) са складу | 323,2 | 46,0 | 156,7 | 22,3 | 48,5 |
| б) транзыт | 89,6 | 12,8 | 48,6 | 6,9 | 54,3 |
| II. Па збыту | 132,1 | 18,8 | 345,0 | 49,1 | 261,1 |
| Драбнічны магазын | 157,3 | 22,4 | 152,3 | 21,7 | 96,2 |
| | **702,4** | **100,0** | **702,7** | **100,0** | |

Ня гледзячы на значнае павялічэньне зваротаў, асабліва па збыце ў 1927-28 г. параўнальна з 1926-27 г. ў 2,6 разы, аднак, і да сучаснага моманту саюз ахоплівае праз арганізаваны збыт загатоўкі свае сеткі толькі на 35 проц. (з 985000 руб. загатовак сеткі за I палову 1927-28 г. збыт саюзу складае 345000 руб.). Гэта часткова тлумачыцца тым, што саюз распыляе і адрывае сваю ўвагу на вядзеньне раздробнага гандлю, што ў сваю чаргу не дае магчымасьці сканцэнтраваць больш увагі на вядзеньні апэрацыйнай працы, у прыватнасьці загатовак. Зусім нязначны былі загатоўкі ў 1926-27 г., якія зьменшыліся ў параўнаньні з 1925-26 г. на 43 проц. (з прычыны недароду некаторых культур і інш.). Трэба падкрэсьліць, што рэнтабэльнасьць раздробнага гандлю нязначная і складае за апошні час каля 100 руб. у месяц.

Вынікі загатовак у галіне кантрактацыі ільна-валакна за 1926-27 г. зьяўляюцца нездавальняючымі: паводле даных на 21/IV 1928 г. наогул выканана 78 проц., але таварам дадзена толькі 20,25 проц. і астатняе зварочана грашыма; пры чым саюзам перададзена 646 спраў судовым органам.

Закупкі тавараў за 1926-27 г. праводзіліся ў Белсельсаюзе на 70,4 проц., у дзяржорганах на 23,3 проц., а тавару збыта ў сваіх членаў

на 93,2 проц. Накладныя выдаткі на дастаўчыя тавары значныя, што сведчыць аб нязначнай частцы тавараў, якія атрымліваюцца транзытам (глядзі табліцу вышэй).

Налажэньне на сабекошт тавараў у сярэднім складае 6,3 проц.; сярэдняя зварочальнасьць тавараў па дастаўцы складае 1 раз у 81 дзень, а па збыце 1 раз у 36 дзён.

Наогул плян апэрацыйнае працы саюзу выкананы толькі на 72,2 проц. па дастаўцы і на 58,5 проц. па збыце, пры чым па паасобных таварах па выкананьні пляну маюцца значныя хістаньні ад 17,8 проц. (с.-г. інвэнтар) да 200,8 проц. (малочны інвэнтар) па дастаўцы і ад 23,7 проц. (ільно-валакно) да 76,6 проц. (масла-насеньня).

Агульны прыбытак ад рэалізацыі тавараў па дастаўцы складае 9,1 проц., а па збыце 13,1 проц. да агульнага звароту па сабекошту гэтых тавараў, пры чым параўнальна з мінулым 1925-26 г. (пры павялічэньні зваротаў па дастаўцы на 19 проц. агульны прыбытак зьменшыўся амаль-што ў два разы (9,1 проц. замест 21,1 проц.), а па збыце павялічыўся на 1,5 проц. (13,1 проц. замест 11,6 проц.).

Апэрацыі па дастаўцы зьяўляліся стратнымі.

Пры памяншэньні ўсіх выдаткаў на 25,3 проц., гандлёвыя і агульныя выдаткі зьменшаны на 12,1 проц., а ў процантных адносінах да звароту ад 11,1 проц. да 9,4 проц. Вялікае месца займалі выдаткі па выплаце процантаў за карыстаньне сродкамі (30 проц. усіх выдаткаў), што тлумачыцца поўным адсутнічаньнем уласных сродкаў у звароце саюзу.

Дзякуючы нерэнтабэльнасьці значнае часткі дастаўчых апэрацый саюзу, асабліва с.-г. машын, і нязначных загатовак 1926-27 г. і наогул нязначных зваротаў пры вялікім штаце, наяўнага на балянсе дэфіцыту мінулых гадоў, зьніжэньня цэн і малое рэнтабэльнасьці раздробнага гандлю, Аршанскі саюз скончыў апэрацыйны 1926-27 год са стратамі ў 60.838 р., з якіх 24.730 руб. зьяўляюцца стратамі 1925-26 г., якія выяўлены рэвізыйнай камісіяй у чэрвені 1927 г.

Хаця ўлік тавараў Саюзу рабіўся. але праверка наяўнасьці паводле кніжных запісаў зроблена толькі на 1/X-27 г., а да гэтага часу лішкі не запісаны на прыход, а страты ня сьпісаны, што фактычна не дало магчымасьці зачыніць кнігі за мінулыя гады. Наогул становішча бухгальтэрыі і да сучаснага моманту застаецца дрэнным, з прычыны слабага кіраўніцтва, адсутнічаньня выразнага ўстанаўленьня абавязкаў працаўнікоў; ня гледзячы на тое, што працуюць 6 працаўнікоў, балянсу на 1/II-28 г. дагэтуль няма.

Ня гледзячы на асыгнаваньне з боку дзяржавы акрсельсаюзу 110.900 руб. на пакрыцьцё страт за мінулыя гады, аднак у сучасны момант грашовае становішча саюзу застаецца напружаным, і аналіз балянсу гаворыць пра страты мінулых гадоў, якія засталіся ў разьмеры 32.671 руб. і якія складаюцца з страт, адзначаных па балянсу ў 12.100 руб. (розьніца паміж стратамі 123.000 і атрыманымі ад дзяржавы 110.900 руб.), пратэставаных вэксалёў—6.973 руб., няпэўных дэбітораў—12.559 руб., апошнія лічацца, галоўным чынам, за ліквідаванымі т-вамі з 1923-24-25 г. г., частка якіх уваходзіла членамі у б. Горацкі саюз, а таксама з безнадзейных даўгоў.

Вялікае памяншэньне непрадукцыйных выдаткаў па аплаце процантаў за доўгатэрміновыя крэдыты, павялічэньне зваротных сродкаў, а таксама сярэдні тэрмін атрыманых крэдытаў у 99 дзён, пры выдачы крэдытаў на 75 дзён, некалькі паслабляе грашовую напружанасьць саюзу.

Аналіз балянсаў саюзу на 1/X-26 г. і 1/X-27 г. дае наступны малюнак:

| | 1/X-1926 г. | 1/X-1927 г. | %% зьмяншш. |
|---|---|---|---|
| | (У тыс. руб.) | | |
| Рухомыя каштоўнасьці | 243.200 | 316.100 | +29,9 |
| Нярухомыя „ | 62.600 | 75.900 | +22,1 |
| **Балянс** | **305.800** | **392.000** | +29,1 |
| Уласныя сродкі | — | 16.000 | у звароце няма сродкаў |
| Пазычаныя „ | 305.800 | 376.000 | +22,9 |
| **Балянс** | **305.800** | **392.000** | +29,1 |

Хаця ўласных сродкаў на 1/X-1927 г. маецца 16.000 руб., але ў звароце яны ня прымаюць удзелу, бо на 59.800 руб., ці на 78,9 проц., яны не пакрываюць нярухомых каштоўнасьцяй.

## Аналіз балянсу саюзу на 1/I 1928 г. дае наступнае:

(У тысячах руб.)

| АКТЫЎ | Руб. | %% | ПАСЫЎ | Руб. | %% |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Рухомыя каштоўнасьці | 327 800 | 78,4 | 1. Уласныя сродкі (капіталы і фонды) | 31.700 | 7,6 |
| 2. Нярухомыя „ | 57.800 | 13,7 | 2. Пазыкі і крэдыты: | | |
| Страты | 33.300 | 7,9 | кароткатэрмінов. | 340.900 | 81,4 |
| | | | доўгатэрміновыя | 46.300 | 11,0 |
| **Балянс** | **418.900** | **100,0** | **Балянс** | **418.900** | **100,0** |

Такім чынам, і ў сучасны момант пасьля атрыманьня 110.000 руб. ад дзяржавы Аршанскі сельсаюз мае ўласных сродкаў такую колькасьць, якая не пакрывае фактычных страт мінулых гадоў, і фінансавае становішча застаецца напружаным—рухомыя каштоўнасьці не пакрываюць пазык і крэдытаў нават кароткатэрміновых.

За I кв. 1927-28 г. апэрацыі саюзу скончыліся стратамі ў 630 руб. з прычыны панесеных страт на мясных апэрацыях у разьмеры 2000 руб., а таксама дзеля таго, што і ў сучасны момант апэрацыі саюзу, асабліва па загатоўках, яшчэ недастаткова разгорнуты.

## Далейшыя мерапрыемствы

Праўленьне Белсельсаюзу на сваім пасяджэньні ад 11/V 1928 г. абмеркавала вынікі абсьледваньня становішча саюзу і вынесла шэраг прапаноў праўленьню Аршанскага акрсельсаюзу, галоўнымі з якіх зьяўляюцца:

1) перадаць прамысловыя арцелі Віцебскаму саюзу саматужна-прамысловай каапэрацыі;

2) ужыць рашучыя захады да папаўненьня і арганізацыі калгасаў за лік бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і каб колькасьць членаў бядняцкіх гаспадарак у машынных таварыствах была даведзена да 35—40 проц.; нагогул павялічыць лік беднаты ў нізоўцы;

3) усе наяўныя фонды па каапэраваньні беднаты скарыстаць па прызначэньні не пазьней 1/VI 1928 г., зьвярнуўшы ўвагу на неабходнасьць праверкі маёмаснага стану тых гаспадарак, якія вызначаны для каапэраваньня за кошт фонду, праводзячы ўсю працу з КСУ;

4) прыцягнуць да адказнасьці праўленьні с.-г. крэдытных т-ваў за несваечасовае і няправільнае скарыстаньне фонду каапэраваньня беднаты;

5) распрацаваць пытаньне аб большай гаспадарчай эфэктыўнасьці каапэраваньня беднаты ў вытворчыя каапэратывы шляхам арганізацыі арцеляй выключна з беднаты;

6) ужыць рашучыя захады да збору паявых капіталаў у мэтах павялічэньня ўласных сродкаў;

7) устанавіць штаты с.-г. крэдытных т-ваў у залежнасьці ад разьмераў астач па пазыках і ад зваротаў па дастаўцы і збыце;

8) арганізаваць акруговую сэкцыю калгасаў; ува ўсіх калгасах наладзіць рахункаводзтва і справаздачнасьць;

9) скласьці пляны працы на III і IV квадры 1927-28 г., даслаць апошні Белсельсаюзу, сваечасова складаць балянсы;

10) раздробную краму перадаць у чэрвені б. г. мясцоваму с.-г. крэдытнаму таварыству на наступных умовах:

а) тавары крамы перадаць па сабекошце;

б) падняць пытаньне аб адчыненьні с.-г. крэдытн. т-вам банкаўскага крэдыту—ліміт у разьмеры 10.000 руб.

11) павялічыць камісыйна-пасрэдніцкую працу з нізоўкай і транзітны завоз тавараў;

12) у мэтах грашовага ўзмацненьня саюзу спыніць продаж тавараў па адчыненых рахунках, ліквідаваць запазычанасьць саюзу нізоўкі па паявых узносах, канчаткова ачысьціць дэбіторскія і крэдыторскія рахункі ад безнадзейных даўгоў, узбудзіць хадайніцтва аб павялічэньні крэдытаў; апрача таго, лічыць неабходным палепшыць кіраўніцтва бухгальтэрыяй і г. д.

---

Д. К.

# Менская гарадзкая канфэрэнцыя жыльлёвае каапэрацыі

У сваім дакладзе пра становішча жыльлёвае каапэрацыі старшыня Белжылсаюзу тав. Левін супыніўся на наступных галоўных задачах, якія стаяць перад праўленьнем Белжылсаюзу да апошняга часу: 1) сваечасовае высьвятленьне і разьмеркаваньне крэдытаў на 1928 г., 2) нарыхтоўка будаўнічых матар'ялаў і атрыманьне лесасек, 3) узмацненьне і раёнаваньне ЖАКТ'аў і ЖБКТ'аў, 4) урэгуляваньне пытаньня аб разьмеркаваньні жыльлёвае плошчы, 5) устанаўленьне плянавасьці будаўніцтва і адпаведнасьць яго да грашовых магчымасьцяй.

Трэба адзначыць поўную адсутнасьць на канфэрэнцыі рэўкамісіі Белжылсаюзу, якая рабіла-б справаздачу на канфэрэнцыі аб сваёй рабоце. Такім чынам, канфэрэнцыі не ўдалося заслухаць судакладу рэўкамісіі з ацэнкаю работы БЖС, што трэба прызнаць ненармальным.

Спрэчкі адбываліся вакол пытаньня аб крэдытах аб так званых пазыках на будаўніцтва ад Камунбанку. Прадстаўнікі ЖАКТ'аў хацелі

давесьці, што Белкамбанк зрывае іх працу па адбудоўцы гаспадарк, абмяжоўваючы ці зусім адказваючы ў крэдытах на рэмонтныя работы, і што БЖС нібы-та вінаваты ў тым, што атрымалася вялікая няўвязка паміж грашова-будаўнічымі плянамі ЖАКТ'аў і крэдытнаю палітыкаю банку. Гаварылася, што банк нібы-та і праў фармальна, але каб Камбанк не абмяжаваўся толькі фармальным падыходам, а бліжэй прыняў да сэрца патрэбы ЖАКТ'аў у іх адказнай-рабоце па адбудаваньні і падтрыманьні жылое плошчы. Адзначалася, што вынікам недастатковасьці крэдытаў быў развал гаспадаркі шмат у якіх ЖАКТ'ах: значная колькасьць дамоў пачынае разбурацца і пагражае канчатковым разбурэньнем. Ад гарадзкога архітэктара атрымоўваюць загады аб высяленьні жыхароў з шмат якіх дамоў.

Белжылсаюзу ставілася ў дакор тое, што пры ўтварэньні рэмонтаў летась ён зусім ня супыняў некаторых ЖАКТ'аў, якія вельмі размахваліся ў сваёй рэмонтнай працы. Вынікам былі вялікія перавыдаткі і немагчымасьць выканаць сваіх абавязкаў перад банкам, які стаў націскаць і не даваць крэдытаў на работы ў бягучым годзе. Паводле думкі крытыкаў, узгадненьне працы ЖАКТ'аў з крэдытнымі магчымасьцямі ёсьць простая справа Белжылсаюзу, які праглядзеў гэты момант рэгуляваньня ў сваёй працы.

Прадстаўнік Белкамунбанку тав. Топаз у сваім слове адзначыў, што, ня гледзячы на неахайнасьць да сваіх грашовых абавязкаў, банк аднёсься з вялікаю ўважлівасьцю да інтэрэсаў ЖАКТ'аў, чакаючы па колькі месяцаў пагашэньня чарговае часткі запазычанасьці. Ён многа раз выклікаў працаўнікоў ЖАКТ'аў для высьвятленьня пытаньня аб прычынах затрыманьня ўзносаў, але ЖАКТ'ы ўпарта маўчалі і прапускалі міма вушэй перасьцярогі банку. Аднойчы банк прымушаны быў зьвярнуцца нават да суда, і з таго часу адказчык (з ЖАКТ'у за горадам) стаў пагашаць пазыку ўзносамі за тыдзень да тэрміну. Гэтую крэдытную дысцыпліну банк рашыў ужываць, як правіла, у сваёй рабоце, бо несваечасовы зварот пазык зрывае крэдытную палітыку банку. Гэтая жорсткасьць банку павінна прывесьці да таго, што ЖАКТ'ы ў сваёй далейшай працы будуць лічыцца з рэальнымі магчымасьцямі, а ня лётаць у паветры.

Прадстаўнікі ЖАКТ'аў адзначалі слабую працу БЖС у сэнсе інструктаваньня. Абсьледваньні, якія рабіліся інструктарамі і тэхнічнымі працаўнікамі БЖС, не адзначаліся глыбінёю і адбываліся дужа рэдка. Наогул ЖАКТ'ы былі пакінуты на сябе і самі павінны былі думаць аб усім.

Адзначалася слабая работа па культурна-бытавой лініі. У некаторых ЖАКТ'ах няма дзіцячых садоў, не наладжваюцца сходы, не вядзецца прапагандысцкая праца, кепска пастаўлена справа з абслугоўваньнем дзіцячых садоў лектарскімі сіламі. Санітарная справа ў ЖАКТ'ах зусім дрэнная.

Тав. Гольдвасэр у сваім слове дала прыклад, калі ЖАКТ, замест 10 наведваньняў інструктарам ЖАКТ'у, у анкеце паказаў адно (мабыць з намерам дыскрэдытаваць работу БЖС). Ёю-ж было падкрэсьлена, што інструктаваньне ня ёсьць апякунства над ЖАКТ'амі, што каапэрацыя прадугледжвае вядомую самадзейнасьць. Паводле яе слоў, ЖАКТ'ы ў некаторых выпадках самі адмаўляліся ад лекараў толькі таму, што за работу ім трэба плаціць. Асабліва супынялася яна на градацыі аплаты кватэр ў новых дамох, якая выклікала вялікае нездаваленьне прадстаўнікоў каапэрацыі. Супярэчаньні супроць градацыі даводзілі галоўным чынам недаступнасьць кватэры для рабочага і служачага з сярэднім заработкам, даводзілі, што кватэры застануцца рабочым і служачым, якія добра аплачваюцца. Паводле слов тав. Гольдвасэр, каб атрымаць кватэру каштоўнасьцю, напр., у 5.000 руб., перад тым, як яе заняць, трэба сабраць толькі 2 проц., г. зн. усяго каля 100 руб. Правільна было адзначана ёю, што час адмовіцца ад погляду на жылкаапэрацыю, як на сацзабесьпячэньне, што жылкаапэрацыя ня горш усякае іншае каапэрацыі: каб купіць паліто ў ЦРК звыклі-ж уносіць па 20 проц. яго вартасьці і пагашаць сваечасова

запазычанасьць, кватэру-ж хочуць атрымаць бяз узносаў і пасьля мудруюць, каб як-небудзь зусім не плаціць. Да гаспадаркі павінен быць і гаспадарчы падыход: што каштуе грошы—павінна грашыма і аплачвацца, дарам нічога не даецца.

Прадстаўнікі ЖБКТ скардзіліся на тое, што работы ў поўным выглядзе не канчаюцца. Пры просьбе жыльца здаць яму гатовую кватэру праўленьне ЖБКТківае на Белжылсаюз, а Белжылсаюз адсылае да праўленьня. Былі скаргі на дрэнную якасьць работы: пры вялікіх дажджох сьцены драўляных дамоў цякуць. Прапанавалася знайсьці вінаватага і пакараць яго, але пры гэтым зусім забывалі, што дамы будаваліся з сырога лесу, а сыры матар'ял пасьля ссыхаецца. Вінаваты крыху плотнікі, бо іншы раз выконваюць работы не добрасумленна. Яшчэ адзначалася, што ў некаторых ЖАКТ'ах іржавеюць дахі ў той час, калі ў БЖС хапае алівы.

Заслугоўвае ўвагі выступленьне тав. Ютэра, які адзначыў вельмі нездаровае зьявішча ў палітыцы ЖАКТ'аў, што гоняцца за „багатымі“ жыльцамі. У той час, калі „свае“ жыльцы сядзяць у сырых паабвальваных памяшканьнях, выдаткуюцца вялікія сродкі на рэмонт кватэр для пабочных асоб, ня членаў ЖАКТ'у, бо тыя дакляруюць высокую кватэрную плату. З гэтаю палітыкаю трэба сапраўды павесьці барацьбу і першым чынам Белжылсаюзу.

Зьвярталася ўвага БЖС на тое, што пры складаньні пляну работ наступнага году трэба ўвесьці ў яго выдаткі, зьвязаныя з уключэньнем гаспадарак ЖАКТ'аў у сетку каналізацыі, якая праводзіцца зараз у Менску. Трэба таксама ўлічыць выдатак, які зьвязан з выдаткам пабудоўкі тратуараў, якія не прадугледжаны каштарысамі Ж\КТ'у.

Перад Белкамунбанкам трэба паставіць пытаньне аб тым, каб ўсё-ж знайсьці шляхі да крэдытаваньня ЖАКТ'аў, дамы якіх разбураюцца

Канфэрэнцыя наогул прайшла вельмі жвава. Трэба толькі пастарацца, каб яе практычныя паказаньні былі прыняты пад увагу і па магчымасьці праведзены ў жыцьцё.

# ПА КААПЦЭНТРАХ

К. Трамдах

## 41-ы сход упаўнаважаных Цэнтрасаюзу

(*Вынікі і пастановы*))

15—23-га ліпеня ў Маскве адбыўся 41-ы сход упаўнаважаных спажывецкае каапэрацыі саюзу БССР.

Сход упаўнаважаных адзначыў шэраг дасягненьняў у працы Цэнтрасаюзу і яго сэкцый, якія выявіліся ў павышэньні аўтарытэту і значэньня ў гаспадарчай працы і ў будаўніцтве сыстэмы, у паляпшэньні кіраўніцтва ёю, у ўзмацненьні і падняцьці ўнутры каапэрацыйных і гаспадарчых сувязяй.

З недахопаў у працы Цэнтрасаюзу адзначаны, як асноўныя: маруднае прахаджэньне пытаньняў па заключэньні гэнумоў з прамысловасьцю, недастатковая наладжанасьць арганізацыйнае працы і выпадкі аднабакова-камэрцыйнага падыходу ў справе ўзаемаадносін з арганізацыямі сыстэмы.

Адабраючы работу праўленьня Цэнтрасаюзу, сход упаўнаважаных высунуў патрэбнасьць выкананьня наступных задач:

1. Устанаўленьне правільных і нармальных узаемаадносін з органамі рэгуляваньня. За каапцэнтрамі павінна быць забясьпечана права плянаваньня і рэгуляваньня дзейнасьці спажыўсыстэмы. Рэгуляваньне спажыўкаапэрацыі Наркамгандлем адносна да дэфіцытных тавараў можа праводзіцца пры дапамозе спэцыяльна вылучаных у яго распараджэньне рэзэрваў з поўнай адмоваю ад мерапрыемстваў адміністрацыйнага рэгуляваньня.

2. Удасканаленьне сыстэмы генэральных умоў з прамысловасьцю ў бок максімальнага прыстасоўваньня інтэрэсаў вытворчасьці і арганізаванага спажыўца. Гэтаму павінна дапамагаць належная пастаноўка сыстэмы папярэдніх заказаў, на аснове ўліку спажывецкага попыту.

Трэба дабіцца ўтварэньня гарантый своечасовага і поўнага выкананьня гэнумоў прамысловасьцю і ўстанавіць рэальную матар'яльную адказнасьць органаў дзяржпрамысловасьці за невыкананьне умоў.

Трэба шырока выкарыстаць прадукцыю спажывецка-прамысловае каапэрацыі; працу будаваць паводле прынцыпу дагавароў, якія прадугледжваюць адпаведны тып, якасьць і стандарт прадукцыі.

3. Далейшае разьвіцьцё дзейнасьці ў справе назапашаньняў паколькі гэта трэба будзе, як па матывах агульна-дзяржаўнага парадку, так і ў выніку таго, што сел.-гасп. каапэрацыя не ахоплівае ў дастатковай ступені рынку назапашаньняў.

4. Будаваць прамысловую дзейнасьць сыстэмы толькі па лініі разьвіцьця мукамольнае, хлебапякарнае, кансэрвовае, мылаварнае і інш. падобных відаў прамысловасьці. Каб вызваліць бюджэт спажывецкіх мас ад пераплат дробным рамесьнікам, разьвіваць сетку падсобных вытворчых прадпрыемстваў: грамадзкіх пральняў і г. д.

5. Наладзіць гандлёвую сетку, якая была-б шырока разгалінаванай і працавала-б выразна. У галіне саюзнага будаўніцтва весьці далейшае ўзбуйненьне сеткі райсаюзаў, а па нізоўцы пашыраць крамную сетку, прыблізіць каапэрацыйную краму да спажыўца і забясьпечыць замену сеткі прыватнага гандляра, які выціскаецца.

Пашырэньне крамнае сеткі высоўвае пытаньне пра будаўніцтва новых крам, складаў, сталовак, пякарняў і інш. Патрэбныя на гэта сродкі трэба браць ня толькі з дзяржбюджэту і банкавых устаноў, але з асобнаю настойлівасьцю зьбіраць іх унутры сыстэмы, утвараючы і ўзмацняючы

спэцыяльныя формы доўгатэрміновага крэдытаваньня. Капітальнае будаўніцтва і зьвязаныя з ім выдаткі трэба праводзіць у строга плянавым парадку, узгадняючы іх з саюзамі.

6. У галіне рацыяналізацыі гандлёвае працы асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на ўпарадкаваньне прасоўваньня тавараў ад вытворцы да спажыўца, на зьнішчэньне паралелізму ў працы, на скарачэньне выдаткаў і, самае галоўнае, на рацыяналізацыю самое тэхнікі гандлёвае працы і на паляпшэньне якасьці абслугоўваньня спажыўца. З гэтаю мэтаю пры саюзах неабходна арганізаваць спэцыяльныя рацыяналізатарскія апараты.

Да справы паляпшэньня якасьці працы спажыўкаапэрацыі трэба прыцягнуць пайшчыкаў і шырокія работніцкія і сялянскія масы.

З другога боку, у сучасны момант асабліва важна як самакрытыка і выяўленьне ў працы недахопаў, так і асабліва шырокая інфармаванасьць мас і арганізаванае праяўленьне з іх боку шырокае крытыкі нашае работы. Далейшаму разгортваньню самакрытыкі ў нашай сыстэме і наданьню ёй масавага характару павінна быць аддана вельмі многа ўвагі.

7. У галіне каапэраваньня—у першую чаргу патрэбны ахоп бядняцкіх, батрацкіх і серадняцкіх гаспадарак на сяле і каапэраваньне ўсіх работнікаў і служачых. Прыступіць да каапэраваньня т. зв. „другіх членаў сям'і" (жанок работнікаў, сялянак, моладзі).

Захаваньне пераважнага забесьпячэньня недастатковымі таварамі, першачарговасьць продажу тавараў, накіраваньне часткі прыбыткаў на агульныя для пайшчыкаў культурныя і бытавыя мэты і іншыя віды зацікаўленьня —павінны паслужыць стымулем для далейшага ўцягненьня ў каапэрацыю шырокіх работніцкіх і сялянскіх мас і сьціслай сувязі іх з каапэрацыйнымі арганізацыямі.

8. Максімальнае разьвіцьцё масавае працы спажыўкаапэрацыі, накіраванае да падняцьця культурнага ўзроўню каапэраваных мас. У гэтых мэтах разьвіць сетку курсаў, каапэрацыйных гурткоў і лекцыйную работу для каапэрацыйнага актыву.

Спажыўсыстэма павінна стаць асноўным каналам прасоўваньня кніжкі да спажыўца. Кніжна-гандлёвая праца—абавязковая частка агульнае працы кожнага спажыўтаварыства.

У галіне кіно і радыёфікацыі спажыўкаапэрацыя, асабліва ў вёсцы, павінна быць асноўным органам, які абслугоўваў-бы членскія масы.

У галіне бытавое працы наша галоўная чарговая задача—арганізацыя ў шырокіх памерах рацыянальна пастаўленага грамадзкага харчаваньня. Да гэтае працы павінна быць прыцягнута ўся савецкая грамадзкасьць.

Працу па абслугоўваньні бытавых патрэб пайшчыкаў (ясьлі, пляцоўкі, кансультацыі і г. д.) трэба разьвіваць і якасна паляпшаць. Куткі „Маці і дзіця" павінны быць арганізаваны незалежна ад наяўнасьці сродкаў у культфондах,—з фінансаваньнем па каштарысах.

9. Узмацненьне і разьвіцьцё фінансавае гаспадаркі—баявая задача спажыўсыстэмы, тым больш, што за апошнія гады гандлёвазабясьпечальная работа абганяе ў сваім росьце рост і ўзмацненьне фінансавае базы сыстэмы, утвараючы разрыў паміж фінансаваю базаю і значна павялічанымі зваротамі сыстэмы.

У гэтых мэтах патрэбна: а) утварэньне ўстойлівага становішча ў суадносінах уласных і пазычаных сродкаў; б) няўхільнае штогадовае павялічэньне паю аж да ўтварэньня капіталаў, неабходных для працы выключна на ўласныя каапэрацыйныя сродкі; в) максімальнае павялічэньне ўласных капіталаў сыстэмы—у выглядзе збору паявых і атрыманьня нармальнага прыбытку; г) узмацнёнае ўцягненьне зьберажэньняў каапэраванага насельніцтва (уклады, пазыкі, авансы).

Для ўзмацненьня адзінства каапэрацыйнае гаспадаркі трэба ўзяць курс на цэнтралізацыю ў саюзных зьвенчаках сродкаў ніжэйадзначаных арганізацый. З гэтаю мэтаю, у прыватнасьці, неабходна: а) павялічыць

паявыя ўзносы ў саюзы; б) арганізаваць у саюзах розныя цэнтралізаваныя спэцыяльныя фонды,асабліва па доўгатэрміновым крэдытаваньні,па культурна-бытавой працы, запасныя капіталы і г. д.; в) арганізаваць далявыя закупкі і назапашаньні; г) правядзеньне за лік аб'яднаных сродкаў паасобных каапэрацыйных арганізацый, работ па пабудоўцы прадпрыемстваў і г. д.

Уласныя сродкі сыстэмы павінны атрымаць найбольш прадукцыйную работу ў галіне таваразвароту. Дзеля гэтага трэба ўстрымацца ад куплі паёў і акцый у арганізацыях, якія ня зьвязаны з працаю спажыўсыстэмы. Спажыўкаапэрацыі трэба высунуць умовы, неабходныя для забесьпячэньня нармальнага намнажэньня пры абгаварэньні пытаньняў па рэгуляваньні цэн і нацэнак і вызначэньні задач, якія ўскладаюцца на спажыўсыстэму. Праца „на страту" недапушчальна.

10. Падняцьця кваліфікацыі кіраўнічых кадраў каапэрацыйных арганізацый вымагае праца каапэрацыі, якая ўсё ўскладняецца. Для гэтага трэба ўзмацніць працу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы тэхнічных працаўнікоў сыстэмы.

11. Узмацненьне і разьвіцьцё каапэрацыйнае працы ў частках Чырвонай арміі павінна ісьці па лініі: а) абслугоўваньня ў часе лягерных збораў і манэўраў; б) сувязі вайсковакаапэрацыйных камісій з органамі агульна-грамадзкае каапэрацыі; в) арганізацыі каапэрацыйных курсаў і г. д.

12. Паглыбленьне каапэрацыйнае грамадзкасьці—аснова разьвіцьця спажыўкаапэрацыі і пранікненьне яе каапэрацыйным пачаткам. Між тым грамадзкая роля спажыўсыстэмы яшчэ не адпавядае яе вялізнай удзельнай вазе ў гаспадарцы краіны. Гэтую неадпаведнасьць трэба зьнішчыць.

Асаблівая ўвага павінна быць аддана пытаньням узмацненьня адзінства сыстэмы, падняцьцю каапэрацыйнае дысцыпліны. Унутрыкаапэрацыйныя ўзаемаадносіны павінны быць пабудаваны з такім разьлікам, каб першапачатковыя арганізацыі (мясцовыя) зьдейсьнівалі адзіную лінію, якая вызначаецца каапцэнтрам. Але, разам з тым, мясцовыя арганізацыі павінны аказваць арганізацыйнае ўзьдзейнічаньне на цэнтры шляхам шырокага ўдзелу ў абгаварэньні гаспадарчых пытаньняў сыстэмы, якія вырашаюцца ў цэнтрах, і абгаварэньня на сваіх зьездах справаздач вышэйазначаных органаў.

Ва ўсіх выпадках парушэньня дысцыпліны вышэйазначаныя арганізацыі павінны ўжываць меры грамадзкага, арганізацыйнага і эканамічнага ўзьдзейнічаньня.

Нарэшце, сходам ўпаўнаважаных была санкцыянавана неабходнасьць рэарганізацыі цяперашняга Цэнтрасаюзу ў „Цэнтрасаюз СССР" і „Цэнтрасаюз РСФСР". Цэнтрасаюз СССР будзе аб'яднаць усе рэспубліканскія каапэрацыйныя цэнтры, зьдейсьніваючы агульнае кіраўніцтва і плянаваньне гаспадарчым і арганізацыйным будаўніцтвам спажыўкаапэрацыі, і ў адпаведнасьці з гэтым весьці працу па заключэньні генумоў і гуртавыя апэрацыі ў буйным маштабе. Цэнтрасаюз РСФСР будзе абслугоўваць спажыўкаапэрацыю РСФСР беспасярэдна.

У кіраўніцтва і кантрольныя органы Цэнтрасаюзу СССР увайшлі наступныя прадстаўнікі ад спажыўсыстэмы Беларусі:

1. У праўленьне, у ліку 27 членаў, тав. Наўлянскі (старшыня Белкаапсаюзу) і кандыдатам тав. Кумкэс (намесьнік старшыні Белкаапсаюзу).

2. У рэвізыйную камісію, у ліку 15 членаў, тав. Андросенка (старшыня Гомельскага саюзу) і тав. Кац (старшыня Магілеўскага ЦРК) і кандыдатам тав. Рубэн (старшыня Бабруйскага саюзу).

3. У савет, у ліку 80 членаў, тав. Златкін (старшыня Віцебскага саюзу), тав. Гінзбург (старшыня Гомельскага ЦРК) і тав. Гаўрылюк (работнік Эльвода, Менск) і кандыдатам тав. Бурачэўскі (Аршанскі саюз).

---

**Байцоў**

# Доўгатэрміновае крэдытаваньне пры Ўсекабанку

З выданьнем пастановы СНК СССР аб асновах доўгатэрміновага крэдытаваньня каапэрацыі, ад 20-га лютага 1928 г., арганізацыя фондаў сыстэмамі каапэрацыі праводзіцца досыць інтэнсыўна.

*Спажыўкаапэрацыя.* Па балянсах на 1/X 1927 г. прыбытак па арганізацыях складае (за выключэньнем 10 проц. параўнальнага збору):

| | |
|---|---|
| па спажыўсаюзах . . . | . 187 т. руб. |
| па рабочай каапэрацыі . | . 235 т. руб. |
| па спажыў т-вах . . . | . 532 т. руб. |
| Разам . . | . 954 т. руб. |

Праўленьне Белкаапсаюзу і прэзыдыум Белрабсэкцыі, зараз-жа пасьля надрукаваньня дэкрэту аб ФДК, вынесьлі пастанову аб абавязковым адлічэньні ў ФДК арганізацыямі сыстэмы спажывецкае каапэрацыі ў памеры 10 проц. ад прыбытку па балянсах на 1/X 1927 г. Гэтыя пастановы былі пасьля пацьверджаны сэсіяй савету і сходам ўпаўнаважаных БКС, пры чым апошнім тэрмінам унясеньня адлічэньняў у ФДК вызначана 1/VII 1928 г. Для арганізацый, якія ня змогуць узяць са звароту адлічэньняў наяўнымі, дапушчана выдача Ўсекабанку соло-вэксалёў.

На 1/VIII па сыстэме маюцца паступленьні:

| | | |
|---|---|---|
| 1) наяўнымі: | а) ад саюзаў . . . | . 30.546 руб. |
| | б) ад спаж. т-ваў . | . 25.389 „ |
| | в) ад рабкаап. . . | . 9.487 „ |
| | Разам . . | . 65.422 руб. |
| 2) вэксэлямі: | а) ад саюзаў . . . | . 1.788 руб. |
| | б) ад спаж. т-ваў . | . 5.433 „ |
| | в) ад рабкаап. . . | . 13.437 „ |
| | Разам . . | . 20.658 руб. |

з іх на жнівень месяц—на 2.987 руб. і верасень месяц 17.670 р., а ўсяго ўнесена і аформлена—86.080 руб.

Суму адлічэньняў у памеры 9,3 т. руб., якое не хапае, саюзы Віцебскі, Днепрасаюз, а таксама Рэчыцкі ЦРК, афармяць у бліжэйшы час.

*Інвалідная каапэрацыя.* Сыстэма атрымала прыбытку за 1926-27 г. 90 т. руб. і з 10-проц. адлічэньняў утварыла гарантыйны фонд пры рэспубліканскім цэнтры (БСІК'а). Праўленьне БСІК'а пастанавіла рабіць у ФДК свае сыстэмы 10 проц. адлічэньняў ад прыбыткаў, прычым гарантыйны фонд з прыбыткаў мінулага году цалкам перадаць Ўсебанку пасьля 1 кастрычніка 1928 г.

Сыстэмы каапэрацыі—саматужна-прамысловая і жыльлёвая пастанавілі ўносіць у ФДК 5 проц. прыбытку, атрыманага саюзнымі арганізацыямі. Саюзы саматужпрамсыстэмы да гэтага часу ўнесьлі наяўнымі 3.786 р., Белжылсаюз на днях аформіць свае абавязальніцтвы выдачаю адпаведных вэксэлёў на суму 3.531 руб. па пастанове сэсіі савету.

Сыстэмы—сельска-гаспадарчая і паляўнічая каапэрацыя да гэтага часу сваіх адносін да ўтварэньня спэцыяльных фондаў ня вызначылі.

Наогул можна канстатаваць, што спажыўсыстэма ўжо сумела з'арганізаваць свой ФДК і можа прыступіць да здаваленьня заявак на доўгатэрміновыя пазыкі, памер якіх, да рэчы сказаць, значна перавышае памеры фонду. Часткова часовыя выдачы з фонду далі ўжо вядомую дапамогу тым фінансава слабым арганізацыям, якія мелі сапраўдную патрэбу ці на будаўніцтва, ці на саніраваньне балянсу.

# У Белкаапсаюзе

## Пабудова новае базы

Згодна з пастановаю праўленьня БКС ад 9/VІІ прызнана патрэбным пачаць пабудову новае базы.

Месца для новае базы вызначана супроць старое базы № 120, на чыгунцы. Патрэбны кавалак зямлі адпаведнымі органамі ўжо адведзены.

## Пяцігодка спажыўкаапэрацыі

Праўленьнем Белкаапсаюзу даны плянава-эканамічнаму бюро дырэктывы канчаткова выпрацаваць пяцігадовы пэрспэкцыйны плян спажывецкае сыстэмы.

Плян мае быць распрацаваным у зводным выглядзе і прадстаўленым на разгляд і зацьверджаньне праўленьня Белкаапсаюзу не пазьней 20 жніўня.

## Разьмеркаваньне абавязкаў паміж сябрамі праўленьня

Праўленьне Белкаапсаюзу на сходзе сваім, ад 9 ліпеня 1928 году, пастанавіла: да прыходу на працу тав. Кутая абавязкі між сябрамі праўленьня разьмеркаваць наступным парадкам:

„*На тав. Наўлянскага* ўскласьці агульнае кіраваньне, загадваньне фінансава-рахунковым кіраўніцтвам і эканамічна-плянавым бюро; *на тав. Кумкэса* ўзлажыць абавязкі старшыні прэзыдыуму Белрабсэкцыі і загадваньне гандлёвым кіраўніцтвам; *на тав. Фальковіча*—загадваньне загатоўчым кіраўніцтвам; *на тав. Флеера*—загадваньне Маскоўскай канторай; *на тав. Бурага*—загадваньне Менскім аддзяленьнем; *на тав. Хаськіна*—загадваньне арганізацыйным кіраўніцтвам і агульным аддзелам“.

## Выкананьне апэрацыйнага пляну за чэрвень м-ц

Праўленьне Белкаапсаюзу на пасяджэньні сваім ад 9-га ліпеня 1928 г. пастанавіла:

„Канстатаваць выкананьне пляну за чэрвень месяц па закупцы прамтавараў і хлебапрадуктаў усяго на суму 2.852.600 руб., па продажы прамтавараў і хлебапрадуктаў усяго на суму 2.976.500 руб. (98 проц. пляну)“.

## Выкананьне грашовага пляну за ліпень месяц

На пасяджэньні праўленьня БКС пастаноўлена зацьвердзіць выкананьне грашовага пляну за ліпень месяц па прыходзе у суме 1.527.000 р. і па выдатках у суме 1.527.000 руб.

## Выкананьне апэрацыйнага пляну за III квадру

Праўленьне БКС пастанавіла:

„Адзначыць выкананьне апэрацыйнага пляну за III квадру па закупцы прамтавараў і хлебапрадуктаў на суму 10.579.600 руб., па продажы тавараў і хлебапрадуктаў—на суму 10.865.700 р. (56 проц.). Плян транзыту лічыць выкананым у суме 6.716,8 т. р., альбо 79 проц. Закупку тавараў за III квадру па складзкіх апэрацыях лічыць выкананай ў суме 3.863 тыс. руб. (102 проц.), па продажы—4.148,3 тыс. руб. (98 проц.). Астачу—1.137,9 т. р. (98,8 пляну) лічыць здавальняючай.

Выкананьне грашовага пляну за III квадру ў суме: па прыходзе—5.034.000 р., па выдатках—5.029.800 руб. зацьвердзіць“.

## Апэрацыйны і грашовы плян на IV квадру

Праўленьнем БКС пастаноўлена зацьвердзіць апэрацыйны плян на IV квадру па закупцы прамтавараў усяго на суму 11.917.000 руб., з якіх па складзкіх апэрацыях—4.264.000 р. і па транзыце—7.653.000 р; па продажы—усяго на суму 12.124.300 р., з якіх па складзкіх апэрацыях—4.417.300 р. і па транзыце—7.653.000 руб.; па назапашаньні сыравіны—на 1.210.000 р. і па экспарце—290.000 р.

Грашовы плян на IV квадру зацьвердзіць у суме па прыходзе—5.440.000 руб. і па выдатках—5.421.000 руб.

## Завоз тавараў транзытам

Праўленьне БКС пастанавіла: „Прапанаваць спажыўсаюзам і аддзяленьням БКС, каб апошнія практыкавалі завоз транзытам у спажыўтаварыствы ў першую чаргу буйныя таварыствы наступныя тавары: баваўняную мануфактуру, ніткі, калёшы, цьвікі, мыла ўсялякае, гарбату, махорку і тутуновыя вырабы.

Адначасова вывучаць пытаньне пра завоз транзытам скураных тавараў і мэтад „куставаньня“ і мэтад сумеснай адпраўкі тавараў (цукар, хлеб) для шэрагу арганізацый. Даручыць арг. к-ву распрацаваць формы і інструкцыі для транзытных апэрацый для акрсаюзаў і спажыўтаварыстваў“.

# У Белсельсаюзе

## Скліканьне гандлёвае нарады

Праўленьне Белсельсаюзу пастанавіла склікаць 7-га верасьня г. г. гандлёвую нараду.

Парадак дню выпрацаваны наступны:

1. Апэрацыйны плян на 1928-29 г.
2. Пра пабудову апарату.
3. „ мясаназапашаньне.
4. „ экспартны плян.
5. „ генэральныя ўмовы.

## Сэсія савету Белсельсаюзу

Праўленьне Белсельсаюзу пастанавіла склікаць сэсію савету Белсельсаюзу на 10 верасьня г. г.

Парадак дню выпрацаваны наступны:

1. Даклад пра паўгадовую працу.
2. Пра рэарганізацыю сыстэмы сель.-гас. каапэрацыі.
3. „ плян працы на 1928-29 г.

# У Белсампрамсаюзе

## Падпіска на пазыку індустрыялізацыі па сетцы сампрамкаапэрацыі

Згодна з пастановай апошняга сходу праўленьня Белсампрамсаюзу рэкамандавана ўсім арцелям і акрсаюзам правесьці кампанію з мэтаю пашырэньня пазыкі, пры чым пры Белсампрамсаюзе зарганізавана цэнтральная камісія садзейнічаньня пад старшынствам старшыні Белсампрамсаюзу тав. Мар'ясіна. Правядзеньне ў жыцьцё гэтых мерапрыемстваў ускладзена на аргаддзел Белсельпрамсаюзу.

Вырашана, каб тыя, хто зарабляе да 125 рублёў у месяц, падпісваліся на месячны зарабак, звыш 125 рублёў—на двухмесячны зарабак.

## Арганізацыя новых арцеляй.

За апошнія два месяцы па Менску зарганізаваны некалькі арцеляй па вырабу гузікаў з касьцей. Маецца шмат заяў на выраб ваты з ануч і штучнае воўны.

# У Белжылсаюзе

## Новы жылсаюз

У Полацку арганізаваўся гарадзкі саюз жыльлёвае каапэрацыі, які аб'ядная 4 арэндных і 3 будаўнічых каапэрацыйныя таварыствы, што існуюць у горадзе. Такім парадкам, цяпер жылсаюзы ёсьць ува ўсіх акруговых гарадох БССР, а таксама і ў горадзе Барысаве.

## Будаўнічы каапэратыў у Лагойску

У м. Лагойску арганізаваўся будаўнічы каапэратыў пад назваю „Новы быт". Таварыствам намечана пабудова 6 двохкватэрных дамоў, з якіх частка будзе саламітнымі.

## Нарада старшынь жылсаюзаў

17 жніўня адбылася нарада старшынь саюзаў жыльлёвае каапэрацыі БССР. На нарадзе абгаворвалася пытаньне пра становішча будаўнічых работ у сувязі з цяжкасьцю атрыманьня пазык. Нарада пастанавіла зьвярнуцца ў эканомнараду БССР з хадайніцтвам аб урэгуляваньні гэтага пытаньня з мэтаю адхіленьня магчымасьці спыненьня будаўнічых работ.

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР

### пра парадак складаньня, захоўваньня і выдаткаваньня запасных капіталаў у каапэрацыі.

**Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР пастанаўляюць:**

**I.**

1. Каапэрацыйныя арганізацыі ўсіх відаў і ступеняй абавязаны мець запасны капітал, які складаецца ў парадку, паказаным у артыкуле 2-м, і прызначаецца выключна на пакрыцьцё страт паводле балянсу за мінулы апэрацыйны год.

Увага. Гэтая пастанова пашыраецца таксама на акцыйныя таварыствы з выключным удзелам каапэрацыйнага капіталу.

2. Запасныя капіталы складаюцца паводле пастановы агульнага сходу членаў (сходу ўпаўнаважаных) каапэрацыйнае арганізацыі ў часе зацьвярджэньня яе гадавое справаздачы з штогадовых адлічэньняў ня менш 10 проц. чыстага прыбытку, за выключэньнем сельска-гаспадарчае крэдытнае і прамысловае крэдытнае каапэрацыі, для якіх разьмер адлічэньняў ня можа быць ніжэй за 20 проц.

3. Абавязковыя адлічэньні ад прыбыткаў каапэрацыйнае арганізацыі ў запасны капітал могуць быць спынены паводле пастановы агульнага сходу членаў (сходу ўпаўнаважаных), калі запасны капітал дасягне 20 проц. (дваццаці процантаў), а для крэдытна-каапэрацыйных арганізацый 50 проц. (пяцідзесяці процантаў) усіх уласных капіталаў каапэрацыйнае арганізацыі, за выключэньнем паявога.

4. Усе каапэрацыйныя арганізацыі, за выключэньнем сельска-гаспадарчых крэдытных т-ваў і сельска-гаспадарчых крэдытных саюзаў, якія ўваходзяць у сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту, павінны ў працягу 3-х месяцаў ад дня пастановы агульнага сходу (сходу ўпаўнаважаных) пра разьмеркаваньне прыбыткаў перадаваць свае адлічэньні ў запасны капітал у якасьці спэцыяльных укладаў у паасобныя фонды пры каапэрацыйных банках (арт. 5). Сельска-гаспадарчыя крэдытныя т-вы і сельска-гаспадарчыя крэдытныя саюзы, якія ўваходзяць у сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту, павінны ў той-жа тэрмін перадаваць свае адлічэньні ў запасны капітал у якасьці спэцыяльных укладаў у паасобныя фонды пры сельска-гаспадарчых банках саюзных рэспублік (арт. 5).

5. Каапэрацыйныя банкі складаюць з адлічэньняў у запасныя капіталы каапэрацыйных арганізацый, што да іх паступілі, паасобныя фонды па кожным відзе каапэрацыі: спажывецкай, сельска-гаспадарчай, прамысловай, жыльлёвай і інш.

Сельска-гаспадарчыя банкі саюзных рэспублік складаюць фонды з адлічэньняў, што паступілі да іх у запасныя капіталы сельска-гаспадарчых крэдытных т-ваў і сельска-гаспадарчых крэдытных саюзаў, якія ўваходзяць у сыстэму сельска-гаспадарчага крэдыту.

40 проц. фонду кожнага віду каапэрацыі каапэрацыйныя банкі і сельска-гаспадарчыя банкі саюзных рэспублік укладваюць у дзяржаўныя або гарантаваныя ўрадам процантныя паперы. Сьпісак процантных папер вызначаецца згодна з пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 18 траўня 1927 году пра ўлажэньне запасных і рэзэрвных капіталаў юрыдычных асоб у дзяржаўныя і гарантаваныя ўрадам процантныя паперы (Збор законаў Саюзу ССР 1927 г., № 52, арт. 519); астатнія 60 проц. пямянёных фондаў ужываюцца паказанымі крэдытнымі ўстановамі на патрэбы крэдытаваньня адпаведных відаў каапэрацыі. Парадак захаваньня і выкарыстаньня гэтых сум устанаўляецца крэдытнымі ўстановамі паводле згоды з належнымі каапэрацыйнымі цэнтрамі.

6. Улажэньне адлічэньняў у паказаныя ў артыкуле 5-м фонды робіцца, пачынаючы з адлічэньняў у запасныя капіталы каапэрацыйных арганізацый з прыбыткаў паводле балянсаў за 1926-1927 г., а для тых арганізацый, апэрацыйны год якіх пачынаецца 1 студня, з прыбыткаў паводле балянсаў за 1927 г.

Каапэрацыйныя арганізацыі, абавязаныя публічнай справаздачнасьцю, балянсы якіх за 1926-1927 апэрацыйны год ня будуць зацьверджаны да моманту апублікаваньня гэтае пастановы, павінны ўкладваць у вышэйпаказаныя фонды (арт. 5) адлічэньні, прадугледжаныя артыкулам 2-м, пачынаючы з адлічэньняў з прыбыткаў паводле балянсаў за 1925-1926 апэрацыйны год.

7. Народнаму Камісару Фінансаў Саюзу ССР надаецца права адтэрмінаваць і растэрмінаваць каапэрацыйным арганізацыям унясеньне ў прадугледжаныя арт. 4 крэдытныя ўстановы адлічэньняў у запасныя капіталы на час ня больш аднаго году у тых выпадках, калі на моцы выключных умоў унясеньне гэтых адлічэньняў у устаноўлены ў арт. 4 тэрмін зьяўляецца для каапэрацыйнае арганізацыі немагчымым, або магло-б прывесьці да сур'ёзных цяжкасьцяй у яе дзейнасьці.

Увага. Народнаму Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР, па згодзе з Усесаюзным цэнтральным каапэрацыйным саветам, надаецца права звальняць тыя з першапачатковых каапэрацыйных арганізацый вытворчага характару без збытавах функцый, якія не абавязаны публічнай справаздачнасьцю, ад зьмяшчэньня адлічэньняў у запасныя капіталы ў каапэрацыйныя банкі.

8. Адлічэньні ў запасныя капіталы, якія ўносяцца ў каапэрацыйныя банкі і сельска-гаспадарчыя банкі саюзных рэспублік у парадку растэрмінаваньня (арт 7), ужываюцца банкамі ў першую чаргу ў поўнай меры на набыцьцё дзяржаўных або гарантаваных урадам процантных папер да дасягненьня 40 проц. усяе сумы адлічэньняў, якія падлягаюць унясенью.

9. У тых выпадках, калі зьявіцца неабходнасьць звыдаткаваць у ўстаноўленым парадку запасны капітал каапэрацыйнае арганізацыі поўнасьцю або часткова на пакрыцьцё яе страт паводле гадовага балянсу, адпаведная сума з унесеных гэтай арганізацыяй у банк адлічэньняў у запасны капітал вяртаецца банкам каапэрацыйнай арганізацыі з належных фондаў (арт. 5), пры чым сума, якая вяртаецца, пакрываецца ў разьмеры 40 проц. за лік процантных папер, а ў разьмеры 60 проц.—за лік астатняе часткі фонду (арт. 5).

Рэалізацыя вышэйпаказаных процантных папер робіцца або шляхам адчужэньня іх банкам з папярэднім паведамленьнем пра гэта Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР або Народнага Камісарыяту Фінансаў саюзнае рэспублікі, гледзячы паводле таго, каму належыць (згодна з інструкцыяй, прадугледжанай арт. 14), або шляхам прад'яўленьня банкамі процантных папер, што належаць рэалізацыі, Народнаму Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР або Народнаму Камісарыяту Фінансаў саюзнае рэспублікі, гледзячы па тым, каму належыць, для выплаты іх паводле намінальнае каштоўнасьці.

10. У выключных выпадках з паведамленьнем Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР або Народнага Камісарыяту Фінансаў саюзнае рэспублікі, гледзячы па тым, каму належыць, процантныя паперы (арт. 5) могуць у працягу апэрацыйнага году давацца ў заставу або прад'яўляцца каапэрацыйнай арганізацыяй ў забесьпячэньне спраўнасьці выкананьня ёю прынятых на сябе абавязкаў.

У выпадку, калі азначаныя процантныя паперы павінны будуць ісьці на пакрыцьцё абавязальніцтваў каапэрацыйнае арганізацыі, апошняя, паводле вымаганьня належнага фінансавага органу, абавязана ў месячны тэрмін унесьці ў належны банк (арт. 4) адпаведную колькасьць процантных папер або патрэбную для набыцьця іх суму грошай.

11. У выпадку неўнясеньня ў адпаведны банк (арт. 4) тае часткі адлічэньня ў запасны капітал, якая падлягае зьмяшчэньню ў дзяржаўныя або гарантаваныя ўрадам процантныя паперы у працягу трох месяцаў ад дня зробленага ў устаноўленым парадку разьмеркаваньня прыбыткаў (арт. 4) або ў працягу дадатковага тэрміну (арт. 7), а таксама ў выпадках, калі паказаныя ў арт. 10 ня ўнесеныя сумы спаганяюцца належнымі фінансавымі органамі ў бясспрэчным парадку, стасоўна да правілаў, устаноўленых для спагнаньня нядоімак па падатках, але без налічэньня пені, і перадаюцца адпаведнаму банку, атрыманыя ад фінансавых органаў сумы банкі поўнасьцю ўжываюць на набыцьцё вышэйпаказаных процантных папер.

Кіраўнікі каапэрацыйных арганізацый, якія ня выканалі абавязку ўнесьці ў банк паказаныя ў першай частцы гэтага артыкулу сумы, падлягаюць адказнасьці ў дысцыплінарным парадку.

12. Банкі зьмяшчаюць належныя часткі паасобных фондаў (арт. 5 і 8) у дзяржаўныя або гарантаваныя ўрадам процантчыя паперы не пазьней тыднёвага тэрміну ад дня атрыманьня ад каапэрацыйных арганізацый адлічэньняў у запасныя капіталы або ад дня атрыманьня ад фінансавых органаў спагнаных імі на моцы арт. 11 сум.

Кіраўнікі банкаў, якія ня выканалі вымаганьняў гэтага артыкулу, падлягаюць адказнасьці ў дысцыплінарным парадку.

13. На органы Народнага Камісарыяту Фінансаў Саюзу ССР і Народных Камісарыятаў Фінансаў саюзных рэспублік у парадку, які ўстанаўляецца інструкцыяй

(арт. 14), ускладаецца нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ў частцы, якая датычыць зьмяшчэньня 40 проц. сум, якія падлягаюць адлічэньню ў запасныя капіталы каапэрацыйных арганізацый, у дзяржаўныя або гарантаваныя ўрадам процантныя паперы.

14. Інструкцыя да ўжываньня гэтае пастановы выдаецца ў месячны тэрмін Народным Камісарыятам Фінансаў Саюзу ССР па згодзе з Усесаюзным цэнтральным каапэрацыйным саветам.

**Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР М. КАЛІНІН.**

**Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў Саюзу ССР Я. РУДЗУТАК.**

**Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР А. ЕНУКІДЗЭ.**

Масква, Крэмль, 23 траўня 1928 г.

---

# Рэзалюцыя III сэсіі савету Белсампрамсаюзу

## па дакладзе т. Мар'ясіна аб бліжэйшых задачах прамысловай каапэрацыі БССР

1. Саматужна-рамесьніцкая прамысловасьць Беларусі, якая складалася ў прадваенныя часы, у выніку цэлага шэрагу гістарычных прычын („черта оседлости", блізасьць да прамысловага раёну Польшчы, а сутнасьць буйнай індустры), насіла пераважна рамесьніцкі характар—праца саматужніка-адзінкі на заказчыка; пры чым саматужнікі і рамесьнікі, занятыя ў ёй, знаходзіліся ў дужа мізэрным стане, які яшчэ больш пагоршыўся ў часе імпэрыялістычнае і грамадзянскае вайны.

2. Кастрычнікавая рэвалюцыя адразу ўнесла ў становішча саматужніцкіх мас БССР значныя перамены. У выніку таго, што абшары БССР зрабіліся арэнаю грамадзянскае вайны і што разьвіцьцё ўсяе гаспадаркі Беларусі, у тым ліку і саматужніцкае прамысловасьці, адставала ад разьвіцьця іншых часьцін Саюзу, толькі пасьля сканчэньня грамадзянскае вайны партыя і савецкая ўлада змаглі зьвярнуць увагу адначасова з аднаўленьнем усяе народнае гаспадаркі гэтак сама і на саматужную прамысловасьць, у першую чаргу на яе бядняцкі сэктар, у выніку чаго зьявілася зграбная сыстэма прамкаапэрацыі Беларусі, якую мы зараз маем.

3. Адзначаючы шэраг дасягненьняў у галіне разьвіцьця і ўзмацненьня прамысловае каапэрацыі БССР, сэсія савету Белсампрамсаюзу падкрэсьлівае недастатковасьць разьвіцьця арцельнага сэктару сыстэмы (26 проц. агульнага ліку каапэраваных саматужнікаў), слабае разьвіцьцё ў сыстэме цэнзавых арцеляй (13 проц.), недастатковае разьвіцьцё ўсіх саматужных промыслаў, у прыватнасьці вясковых промыслаў, якія калісьці былі пашыраны на Беларусі (мастацкае ткацтва, сялянскія палотны і г. д.).

4. Вышэйазначаныя адмоўныя моманты ўзмацняюцца яшчэ тым, што да значнае масы саматужнікаў, не каапэраваных у арцелі і таварыствы, мы маем яшчэ вялікі лік вольных працоўных рук, якія атрымліваюцца ў выніку аграрнае перанаселенасьці вёскі і беспрацоўя ў ёй, а таксама ў выніку выцісканьня часткі насельніцтва гарадоў і мястэчак з дробнага гандлю. Гэта ставіць перад Белсампрамсаюзам задачу далейшага ахапленьня саматужніцкіх мас у каапэрацыйныя формы будаўніцтва—у арцелі (як у тых промыслах, якія ўжо існуюць, так і ў тых промыслах, якія павінны разгортвацца), а гэтак сама задачу стварэньня ўмоў для ўцягненьня ў сыстэму новых мас дэклясаваных і беспрацоўных вёскі, мястэчка і гораду, галоўным чынам бяднейшых з іх.

5. Сэсія савету асабліва адзначае патрэбнасьць разьвіцьця тых промыслаў, прадукцыя якіх да гэтага часу імпартавалася з-за мяжы (галянтарэя, трыкатаж і г. д.), вясковых промыслаў, якія грунтуюцца на мясцовай сыравіне, і галоўным чынам тых, якія вытвараюць шчапныя матар'ялы, а гэтак сама ўзмацненьне і пашырэньне тых промыслаў, прадукцыя якіх мае экспартнае значэньне (смалярства, мастацкае ткацтва і г. д.), максімальна ўцягваючы ў іх рабочыя рукі вёскі і мястэчка, асабліва беднаты.

6. Канстатуючы выкананьне дырэктывы мінулае сэсіі і згортваньне лесапрамысловых арцеляй з пераводам іх на іншыя віды вытворчасьці, сэкцыя прапануе праўленьню Белсампрамсаюзу праводзіць гэтую дырэктыву і ў далейшым, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на разьвіцьцё і пашырэньне абозна-будаўнічага і шчапнога промыслу, а таксама смалярства, у прыватнасьці ў справе выраблeньня экспартнае тары і тары для ўнутранога спажываньня, заўсёды імкнучыся захаваць кадр працоўных рук, да гэтае пары занятых у лясных промыслах.

У мэтах бесьперапынкавага забесьпячэньня паказаных промыслаў сыравінаю Белсампрамсаюз мае нябаўна зрабіць адпаведныя заяўкі на драўніну, дабіваючыся забесьпячэньня ёю ў дастатковай колькасьці і захоўваючы парадак і тэрміны водпуску, якія практыкаваліся ў мінулым годзе.

7. Сэсія савету адзначае недастатковасьць аднаўленьня мастацка-ткацкіх промыслаў на Беларусі і прапануе праўленьню Белсампрамсаюзу прыступіць да стварэньня іх па гнёздавым прынцыпе, арганізаваўшы іх у адпаведных мясцох і разьмерах, забясьпечыўшы іх удасканаленымі варстатамі і мастацкімі ўзорамі ў беларускім стылі і забясьпечыўшы іх у дастатковай ступені сыравінаю.

8. У разьвіцьцё пастановы СНК БССР ад 28/IV г. г. сэсія савету Белсампрамсаюзу даручае праўленьню, у поўным кантакце с акрвыканкомамі і Нарказемам, рэалізаваць зацьверджаны плян будаўніцтва прамкаапэрацыі ў мястэчках, памянёных ў вышэйпаказанай пастанове, вышукаўшы для гэтае мэты дадатковыя сродкі, ужыўшы асаблівыя захады для забесьпячэньня сыравінаю арцеляй, якія арганізуюцца ў гэтых мястэчках.

9. Асноўнаю ўмоваю для пашырэньня старых і стварэньня новых промыслаў зьяўляецца павялічэньне забясьпечваньня як мясцовай дэфіцытнай, гэтак і прывознай дэфіцытнай сыравінаю, выходзячы з чаго сэсія савету прапануе праўленьню Белсампрамсаюзу да пачатку наступнага гаспадарчага году дабіцца поўнага задавальненьня пляну забесьпячэньня ў меры, адпаведнай заяўленым катрольным лічбам, з улікам новых момантаў, адзначаных у пастанове СНК СССР ад 21 траўня г. г., якія прадугледжваюць павялічэньне кантынгентаў сыравіны для некаторых промыслаў, пашырэньне якіх прадугледжваецца гэтай пастановай.

10. Побач з правільным вырашэньнем праблемы забесьпячэньня, сэсія прапануе праўленьню Белсампрамсаюзу шырэй разьвіць збытавыя апэрацыі шляхам:

а) далейшага ахапленьня збыту прадукцыі акрсампрамсаюзаў;

б) своечасовага злажэньня ўмоў з дзяржпрамысловасьцю і каапэрацыяй на вырабы саматужнае прамысловасьці, а асабліва тае, якая карыстаецца шырокім попытам з боку сялянства;

в) ужыцьця адпаведных захадаў для двухбаковага выкананьня зложаных умоў.

11. Шэраг недапушчальных зьявішчаў, якія мелі месца ў апошнія часы і якія гавораць аб пагаршэньні якасьці прадукцыі, ставіць перад праўленьнем Белсампрамсаюзу задачу нябаўнага ўжыцьця шэрагу захадаў для зьнішчэньня гэткіх фактаў, не спыняючыся перад скасаваньнем найбольш вінаватых у гэтым арцеляй.

12. Рост прадукцыі прамкаапэрацыі Беларусі і цяжкасьці ў справе збыту, якія наглядаюцца ў апошні час, ставяць перад Белсампрамсаюзам праблему набыцьця цьвёрдае, сталае клиентуры, якой у першую чаргу павінна быць беларуская спажывецкая каапэрацыя. Белсампрамсаюз павінен дабіцца з боку апошняе плянавых папярэдніх заказаў, асабліва на тыя вырабы, якія спажыўкаапэрацыя завозіць з іншых рэспублік, ня гледзячы на тое, што яны вытвараюцца на Беларусі.

Побач з гэтым Белсампрамсаюз павінен упарадкаваць свой збыт праз тавараправодныя каналы ў Маскве, дабіваючыся праз РСІ правільнае арганізацыі свайго гандлёвага прадстаўніцтва ў Маскве, як для збыту, гэтак і для забесьпячэньня, для таго, каб унікнуць тых перапынкаў, цяганіны і блытаніны, якія наглядаюцца зараз пры абслугоўваньні Белсампрамсаюзу Усекаапрамсаюзам.

13. Улічваючы, што правільнае вырашэньне пытаньняў забесьпячэньня і збыту ў сыстэме павінна адбывацца на грунце плянагоднага водпуску крэдытаў, сэсія савету Белсампрамсаюзу даручае праўленьню, на моцы апошніх пастаноў СНК СССР, пры складаньні заявак на патрэбныя сыстэме крэдыты ўлічыць:

а) капітальныя затраты сыстэмы, якія фінансуюцца за кошт дзяржбюджэтных сродкаў,

б) мэтавыя патрэбы (сэзонныя назапашаньні сыравіны, мэтавае фінансаваньне),

в) банкаўскія кароткатэрміновыя крэдыты ў справе падліку таварных абавязкаў.

Роўным парадкам, прапануецца праўленьню вышукаць сродкі на будаўніцтва майстэрняў для ўзбуйненых арцеляй, якія адпавядалі-б вымаганьням санітарыі і гігіены.

14. Значэньне і роль пазычкова-ашчадных т-ваў вымагае большага кіраўніцтва імі, а гэтак сама і пашырэньня іх функцый, пры чым у першую чаргу Белсампрамсаюз павінен вышукаць для іх новыя крэдыты, без якіх немагчыма разьвіцьцё абслугоўваньня, асабліва мястэчковага і вясковага бедняка-саматужніка, якія часта, дзякуючы адсутнасьці крэдыту, пападаюць ў кабалу да квотніка-„дабрачынца". На моцы пастановы СНК СССР Белсампрамсаюз павінен дабіцца дастатковага крэдытаваньня сваe крэдытнае нізоўкі. Асабліва важна дабіцца дастатковага крэдытаваньня для тых мястэчак, якія зараз упарадкоўваюцца.

15. Сэсія, адзначаючы некаторыя дасягненьні ў галіне ўцягненьня ў сыстэму беднаты, ўсё-ж лічыць гэта недастатковым і прапануе Белсампрамсаюзу ў бліжэйшы час распрацаваць шэраг мерапрыемстваў і палажэньняў для саюзаў, арцеляй і т-ваў, накіраваных у бок ўцягненьня значных бядняцкіх мас мястэчка і вёскі ў арцелі, як у галіне тых промыслаў, якія існуюць у сучаснасьці, гэтак і ў галіне тых промыслаў, якія арганізуюцца нанова, адначасова вядучы змаганьне з засільлем прыватнага капіталу ў некаторых арцелях з фальшывымі каапэратывамі.

16. Сэсія ставіць перад праўленьнем задачы правільнага вырашэньня праблемы, ўцягненьня моладзі і выкарыстаньня працы вучнёўства ў сыстэме шляхам:

а) павялічэньня колькасьці вучняў, асабліва ў тых арцелях, дзе ёсьць патрэбнасьць у падрыхтоўцы працоўнае сілы, для разьвіцьця саматужных мерапрыемстваў там, дзе яны адсутнічаюць або знаходзяцца ў недастатковай колькасьці.

б) ужыцьця захадаў, узгодненых з Наркампрацаю, у справе прыраўнаваньня дзяцей каапэраваных саматужнікаў да дзяцей рабочых у адносінах рэгістрацыі на біржы працы і пасылкі на працу.

в) поўнага скасаваньня асабістага набору вучняў; набор трэба рабіць выключна праз біржу працы;

г) ужыцьця адпаведных мерапрыемстваў па навучаньні і кваліфыкацыі вучняў (брыгады, прымацаваньне да майстроў, з аплатаю апошніх і г. д.).

д) распрацаваньня мерапрыемстваў для аховы працы непаўналеткаў і ўсіх членаў арцеляй з моладзі.

17. Дасягнуты рост каапэраваньня жанчын у арцелях сыстэмы нельга лічыць дастатковым, чаму сэсія прапануе Белсампрамсаюзу ўзьняць гэты рост перад канцом году ня менш, як у паўтара разы.

18. Улічваючы важнасьць задач, якія стаяць перад сыстэмаю, і павышэньня актыўнасьці каапэраваных саматужнікаў, сэсія лічыць, што ажыцьцяўленьне іх можа быць дасягнута толькі пры поўным прыцягненьні да актыўнае працы ўсяе саматужніцкае масы, для чаго трэба лёзунгі крытыкі і самакрытыкі сярод саматужніцкае масы правесьці ў жыццьё перш за ўсё шляхам узмацненьня выбарчых кіраўнічых органаў па сыстэме, шляхам шырокае галоснасьці, яўнасьці і справаздачнасьці ва ўсёй працы.

19. Зьніжэньне сабекошту, памяншэньне накладных выдаткаў, выкананьне дырэктывы пра 20-проц. зьніжэньне адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў павінны быць праведзены з няўхільнай жорсткасьцю, але разам з тым, улічваючы рост, неабходнасьць своечасовага абхапленьня і правільнага абслугоўваньня вялікае кліентуры, праўленьню Белсампрамсаюзу ўжыць усе захады для правільнага пабудаваньня апарату па ўсёй сыстэме, клапоцячыся галоўным чынам аб дастатковым укамплектаваньні яго кваліфікаванымі працаўнікамі.

20. Сэсія даручае прэзыдыуму савету разам з праўленьнем Белсампрамсаюзу вырашыць пытаньне аб арганізацыі пры Белсампрамсаюзе вытворчага аддзелу з мэтаю ўзмацненьня тэхнічнага інструктажа па сыстэме і павышэньня якасьці саматужніцкае прадукцыі.

21. З мэтаю набліжэньня арганізацыйнага і гаспадарчага абслугоўваньня нізоўкі Менскай і Аршанскай акруг, а таксама з мэтаю прадстаўленьня Белсампрамсаюзу, як цэнтру сыстэмы, магчымасьці поўнага абслугоўваньня саюзаў, сэсія савету даручае праўленьню Белсампрамсаюзу распрацаваць у згодзе з зацікаўленымі органамі Менскай і Аршанскай акругі праэкт арганізацыі апарату для абслугоўваньня гэтых акруг з такім разрахункам, каб гэты апарат пачаў функцыянаваць з 1-га кастрычніка 1928 г.

22. Сэсія адзначае, што, за выключэньнем некаторых нязначных дасягненьняў у галіне пашырэньня культпрацы, апошняя па ўсёй сыстэме дагэтуль яшчэ зусім слабая, што цяжка адбіваецца на шмат якіх баках разьвіцьця прамкаапэрацыі, а дзеля гэтага прапануе праўленьню Белсампрамсаюзу не пазьней восені ўнесьці ў прэзыдыум савету распрацаваны шырокі плян культпрацы, пагоджаны з Наркамасьветаю, у якім павінны быць адбіты ўсе моманты, якія адносяцца да гэтае праблемы, а асабліва:

а) адкрыцьцё курсаў, а па магчымасьці і тэхнікуму, для кваліфікацыі і дакваліфікацыі саматужнікаў,

б) арганізацыя рамесьніцкае школы для моладзі,

в) стварэньне цэлага шэрагу ўстаноў агульнаасьветнага і палітасьветнага характару, асабліва для моладзі і жанчын,

г) шырокая пастаноўка культпрацы ў самых арцелях,

д) удзел ва ўсёй пэрыядычнай прэсе, а таксама выданьне адпаведных папулярных матар'ялаў, пры чым уся праца павінна будавацца на шырокім удзеле саматужніцкіх мас, шляхам культпленумаў, канфэрэнцыяй і г. д., а таксама ўзмацненьне культчасткі Белсампрамсаюзу, пры чым плян культпрацы для нізоў павінен быць гатовым не пазьней жніўня.

23. Пасьпяховасьць працы Белсампрамсаюзу, асабліва яго плянавае часткі, сьцісла зьвязана з строгай каапэрацыйнай дысцыплінай, якая дагэтуль была слабай, што зьявілася прычынаю спазьненьня ў справе прадстаўленьня адпаведных матар'ялаў (плянаў і справаздач), а дзеля гэтага сэсія прапануе ўсім акрсаюзам узмацніць каапэрацыйную дысцыпліну шляхам своечасовага прысыланьня матар'ялаў, якія патрабуе Белсампрамсаюз, а апошняму—спрасьціць тыя справаздачы, якія ён вымагае, і прысьці на дапамогу акрсельсаюзам шляхам кансультаваньня.

Асаблівую ўвагу Белсампрамсаюз павінен аддаць пяцігодцы, якая распрацавана з вялікім спазьненьнем, а гэтак сама плянаваньню і рэгуляваньню зарплаты, якая дагэтуль была ламанаю, што прыводзіла часам да вялікіх ненармальнасьцяй.

24. Выходзячы з вышэйпаказаных пунктаў, а гэтак сама з наяўных пастаноў СНК СССР ад 21 траўня г. г. і рэзалюцый па дакладзе саматужніцкага камітэту ВСНГ СССР пра прамкаапэрацыю Беларусі, сэсія савету прапануе прэзыдыуму сумесна з праўленьнем Белсампрамсаюзу ў бліжэйшы час падрыхтаваць шэраг законадаўчых меркаваньняў, якія ўнесьці на разгляд і зацьвярджэньне ўрадавых органаў.

25. Унесьці ў адпаведныя эканамічныя органы пытаньне аб зьняцьці дзяржгандлю з загатоўкі прадуктаў смалярства ў тых акругах, дзе гэтая галіна абхоплена акрсампрамсаюзамі.

# Рэзалюцыя

## па дакладзе аб становішчы калектыўных гаспадарак Менскае акругі і па садакладах

### 1) Аб арганізацыі калгасаў Менскае акругі і форме іх капітала-намнажэньня.

### 2) Аб арганізацыі працы и форме яе аплаты.

Менскі акруговы зьезд адзначае, што па справаздачных даных калгасаў, зарганізаваных ў мінулыя гады (на 1-е красавіка 1928 г.), эканамічнае становішча іх характарызуецца наступным:

1. На падставе дырэктыў XV партзьезду ЎсеКП(б), лютаўскага пленуму ЦК і акругкому КПБ, дзякуючы шырока разгорнутай партыйна-грамадзкай думцы вакол мерапрыемстваў калектывізацыі сельскае гаспадаркі, маюцца значныя посьпехі ў арганізацыі новых калгасаў. За першае паўгодзьдзе зарганізавана 77 новых калгасаў, з іх упяршыню зарганізаваны на працоўных сялянскіх землях 27, а апошнія 50 аб'яднаньняў на землях ДЗМ з уцягненьнем у іх склад беднякоў 74,9 проц., серадняков 16,5 проц. і заможных 8,6 проц. У ліку зноў арганізаваных калгасаў маецца 25 калгасаў яўрэйскага насельніцтва і 4 польскага.

2. Станоўчымі бакамі ў наяўных калгасах зьяўляецца рост асноўных капіталаў за 1926 г. на 16,9 проц.; здавальняючая забясьпечанасьць цягавай сілай; павялічваецца колькасьць і паляпшаецца якасьць сельска гаспадарчых машын і прыладаў; значна лепшая ўраджайнасьць сельска-гаспадарчых культур у параўнаньні з сялянскай гаспадаркай, а таксама значна большы процант пасяўных траў, кораньплодаў і клубнеплодаў (9,6 проц. ў мінулым годзе і 14,8 проц. ў гэтым годзе). Тэхніка палеводзтва амаль што ў усіх калгасах паляпшаецца. Запраэктаваны і ўведзены шматпольныя сэвазвароты, адзначаецца здавальняючае абслугоўваньне асноўных капіталаў і сродкаў вытворчасьці. Пачата праца па складаньні непадзельнага капіталу. Па меры гаспадарчага ўзмацненьня калгасаў пашыраецца агрыкультурная праца і дапамога бядняцкаму насельніцтву.

3. Адмоўным бокам у справе арганізацыі новых калгасаў зьезд лічыць недастатковы іх якасны склад і абшарнасьць плошчы.

4. Недастаткова поўнае скарыстаньне ворнае плошчы ў калгасах да апошняга часу (93,1 проц. супроць 95,2 па саўгасах і 80,1 проц. у сялянскіх гаспадарках).

5. Малае разьвіцьцё гатункавага насеньня (16,7 проц. ад пасеўнае плошчы).

6. Напружанасьць балянсу ўгнаеньня пры зусім нязначным карыстаньні штучнымі ўгнаеньнямі (35 ф. на 1 гэкт. супроць ужываных саўгасамі $2^1/_2$ пудоў на 1 гэкт.).

7. Недастатковая ўкамплектаванасьць калгасаў буйнай рагатай жывёлай: на 100 дзес. пасеву маецца 28,7 кароў супроць 35,1 кароў у сялянскіх гаспадарках, пры нездавальняючай таварнасьці жывёлагадоўлі, якая складае 20 проц. валавога прыбытку калгасаў на 1926-27 г.

8. Сувязь калгаспадарак у рыначным звароце ў мінулым годзе складала: з сыстэмай сел.-гасп. каапэрацыі 43,5 проц.; з дзяржорганамі 22 проц. і з прыватнікам 35,5 проц.,—што трэба лічыць зусім ненармальным зьявішчам, якое характарызуе слабы ўплыў на абслугоўваньне калгасаў наогул з боку сыстэмы сел.-гасп. каапэрацыі.

9. Наяўныя ў калгасах тэхнічныя прадпрыемствы з тэхнічнага боку недастаткова абсталяваны. Абсталяваньне вельмі зношанаі. і прадпрыемствы працуюць ня з поўнай нагрузкай. Не дастаткова плянавая пабудова іх і арганізацыя. Наяўныя прадпрыемствы вельмі дробныя і маюць вельмі нязначны ўплыў на індустрыялізацыю гаспадаркі.

10. Жыльлёвае становішча калгасаў за некаторымі выключэньнямі дрэннае, тэхнічная дапамога як у справе рамонту прадпрыемстваў, гэтак і ў справе жыльлёвага будаўніцтва зусім адсутнічае.

11. У зьвязку з недастатковай укамплектаванасьцю калгасаў патрэбнай працоўнай сілай у якасьці сяброў калгасаў маецца шмат выпадкаў ужываньня наймовае працоўнае сілы і здачы ў эксплёатацыю зямельных ужыткаў з часткі і інш.

12. Не ўрэгулявана пытаньне ўнутранага распарадку ў справе ўстанаўленьня больш нармальных форм аплаты працы; замкнутасьць калгасаў у справе прыйму новых членаў; разьмяркоўваньне ў многіх выпадках вынікаў гадавой працы па паёх. Апошняе зьявішча (штогодняе аўтаматычнае павышэньне паю) набліжае ўдзельнікаў такіх калгасаў да акцыянэраў і перашкаджае ўступленьню беднаты ў такі калгас.

13. Нездавальняючая пастаноўка працы праўленчых органаў, рэдкае скліканьне агульных сходаў і пасяджэньняў саветаў і рэвізыйных камісій, нізкі процант (3 проц.) членаў партыі і камсамолу ў складзе насельніцтва калгасаў і ў праўленчых органах; амаль што адсутнічае культурна-асьветная і грамадзка-палітычная праца сярод насельніцтва калгасаў.

14. Недастаткова наладжана практычная спраўная дапамога калектывам з боку мясцовых органаў: с/с., РВК, парт. ячэек і інш. грамадзкіх арганізацыяй, а таксама недастатковае агранамічнае абслугоўваньне як з боку БСС, гэтак і наогул грамадзкай агранаміі, з другога боку, калектывы самі ня зьвязваюцца ў сваёй працы з вышэйпаказанымі арганізацыямі.

15. Недастаткова зьвернута ўвага на разьвіцьцё другарадных і больш таварных галін сельскае гаспадаркі (птушніцтва, гадоўля сьвіней, пчалярства, гародніцтва), якія патрабуюць галоўным чынам працы жанчын.

16. У большасьці калгасаў адсутнічаюць грамадзкія ўстановы і прадпрыемствы, якія вызваляюць жынчыну ў яе сямейна-бытавым жыцьці.

17. Надзвычайна нізкі с.-г. культурны ўзровень сяброў калектыву, дзякуючы чаму з складу іх цяжка вылучыць адпаведных кіраўнікоў, што адбіваецца на гаспадарча-бытавым жыцьці калгасаў.

18. Ня ўсюды ўрэгулявана пытаньне наконт здавальненьня калгасаў неабходнай колькасьцю сенажаці і лесу.

19. Слабая пастаноўка ўліку і рахункаводзтва ў значнай частцы калгасаў, асабліва ў новых. Вельмі часта ўлік і рахункаводзтва зусім адсутнічаюць.

Для ўзмацненьня далейшае працы зьезд пастанаўляе:

1. Калгас-сэкцыі і Акрза правесьці працу па ўкамплектаваньні калгасаў асабістым складам да нармальнае забясьпечанасьці калгасаў працоўнай сілаю зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падбор і папаўненьне складу арцеляй членамі, напрактыкаванымі ў справе кіраўніцтва буйнаю гаспадаркаю.

2. Калгас-сэкцыі і Акрза асаблівую ўвагу зьвярнуць на падрыхтоўку кіраўнікоў калгасаў праз спэцыяльныя курсы.

3. Сэкцыі калгасаў правесьці працу ўнутры калгасаў па ўстанаўленьні больш правільных унутраных распарадкаў у калгасах, пры канешнай патрэбе ўнесьці карэктывы ў інструкцыі.

4. Калгас-сэкцыі зьвярнуць увагу на патрэбнасьць больш поўнага ахопу рынкавых лішкаў калгасаў сыстэмаю с.-г. каапэрацыі.

5. Калгас-сэкцыі асаблівую ўвагу зьвярнуць на патрэбнасьць больш поўнага тэхнічнага кіраваньня будаўніцтвам калгасаў, а таксама і працай тэхнічных прадпрыемстваў.

6. Калгас-сэкцыі павесьці належную працу па павялічэньні гурта буйнае рагатае жывёлы ў калгасах і павялічэньні яго прадукцыйнасьці, а таксама разьвіцьця другарадных і больш таварных галін сельскае гаспадаркі (птушніцтва, гадоўля сьвіней, пчалярства і інш.), пры гэтым асаблівую ўвагу зьвярнуць на разьвіцьцё прадпрыемстваў, якія дапамагаюць распрыгоненьню працы жанчын і павялічэньню іх кваліфікацыі шляхам большага кіраваньня і дапамогі калгасам у гэтай працы.

7. Акрза і РВК паскорыць вырашэньне пытаньня аб дастатковым здавальненьні калгасаў сенажацямі і лясамі мясцовага значэньня і лесаматар'ялам.

8. У мэтах скарыстаньня практыкі здавальняючай арганізацыі працы калгас-сэкцыі практыкаваць міжраённыя вытворчыя нарады калгасаў з удзелам устаноў і раённай агранаміі, прыцягваючы да гэтае працы бядняцкі актыў сялян, грамадзкія, савецкія і партыйныя мясцовыя арганізацыі.

9. Сэкцыі калгасаў прыняць меры да складаньня ў працягу бягучага году ў 20 проц. старых калгасаў арганізацыйных плянаў і ў 100 проц. калгасаў вытворчых плянаў; Акрза ў належнай ступени дапамагчы праз раённую агранамію.

10. Калгас-сэкцыі распрацаваць плян арганізацыйна-агранамічнага абслугоўваньня калгасаў па групах; у бягучым годзе ўвесьці ня менш пяці груп па акрузе і дабіцца сродкаў на ўтрыманьне іх.

11. Акрза зьвярнуць увагу на пашырэньне далейшае калектывізацыі на землях працоўнага карыстаньня.

12. Зьнішчыць зьявішчы эксплёатацыі наймовае працоўнае сілы і здачы калгасамі ў эксплёатацыю сваіх ужыткаў на падставе арэндных і паявых адносін.

13. Акруговаму інспэктару народнае асьветы і калгас-сэкцыі даць належныя дырэктывы мясцом аб узмацненьні культурнае працы шляхам пашырэньня арганізацыі культурных устаноў і большага ўцягненьня насельніцтва калгасаў і навакольнага сялянства ў гэтую працу. Павялічыць выпіску газэт, асабліва часопісу „Коллективист"; пашырыць выданьне насьценных газэт і арганізацыю гурткоў; зьвярнуць больш увагі на зьнішчэньне няпісьменнасьці сярод насельніцтва калгасаў.

14. Акрза ўжыць захады да вылучэньня спэцыяльных аграномаў для абслугоўваньня калгасаў у кожным раёне; адначасова сэкцыі калгасаў ужыць належныя захады для інструктаваньня вылучаных у раёнах аграномаў.

15. Сэкцыі калгасаў пры правядзеньні справаздачнае перавыбарчае кампаніі зьвярнуць увагу на абавязковы пераход усіх калгасаў на новы статут.

16. Узьняць пытаньне перад належнымі органамі аб устанаўленьні гаспадарчага году для калгасаў замест 1-га кастрычніка з 1-га студзеня.

17. Ужыць усе захады да пашырэньня плошчы новых калгасаў шляхам прырэзкі запфонду і паглыбленьня калектывізацыі на месцы сярод вакольнага насельніцтва.

18. Якасьць жывёлы калгасаў павінна быць павышана галоўным чынам шляхам паляпшэньня ў сябе (падборам па прадукцыйнасьці, рэгуляваньнем карменьня і дагляду пад кіраўніцтвам аграномаў, лік якіх па калгасах прадугледжана пашырыць).

19. Павялічэньне-ж колькасьці статку павінна быць прадугледжана крэдытным плянам у адпаведнасьці з кармавымі рэсурсамі таго ці іншага калгасу.

20. Пытаньне аб новых аборах і аб капітальным рамонце старых абор павінна быць пастаўлена ў кожным калгасе асобна; крэдыты-ж на паказаную мэту павінны ісьці толькі па лініі абграмаджанае часткі жывёлагадоўлі.

21. Пачатая ў гэтым годзе праца ў галінах сьвінагадоўлі і птушніцтва (гнёздавы мэтад) прыме масавы характар толькі ў выпадку ўяўленьня калгасамі прыбытковасьці гэтых галін (у зьвязку з экспартам). Неабходна каб: а) калгасы, якія маюць прадпасылкі да разьвіцьця гэтых галін, прыступілі зараз-жа да іх арганізацыі; б) ужыць усе захады да падняцьця кваліфікацыі асоб, якія мяркуецца паставіць на гэтую працу.

22. У зьвязку з тым, што па Менскай акрузе маюць пэрспэктыву галоўным чынам прадпрыемствы па пераапрацоўцы малочных прадуктаў (маслабойныя заводы, сыраварні), бульбы (крухмальныя і бульбацёрачныя заводы) і садавіны (плодасушыльні і выраб фруктавых він), і ў зьвязку з магчымасьцю атрыманьня найбольш таннай прадукцыі па больш-менш буйных прадпрыемствах, трэба: а) пры групавым аб'яднаньні калгасаў практыкаваць пабудову сумесна тэхнічных прадпрыемстваў па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў, уцягваючы ў гэтую працу сялянскія гаспадаркі на каапэрацыйных падставах; б) гэтыя прадпрыемствы праз пэўны тэрмін будуць эканамічна дыктаваць калгасам аднолькавы напрамак і спэцыялізацыю гаспадаркі, а таксама дадуць добрыя вынікі ў сэнсе кандыцыі прадуктаў і продажы буйнымі партыямі.

23. Пашырыць плошчы пасеваў калгасаў (апошняе, асабліва ў старых калгасах, залежыць у значнай ступені ад прымусу).

24. Павысіць удзельную вагу караньплодаў і клубняплодаў і пасяўных траў у агульнай плошчы пасеву, як падставу для жывёлагадоўчага ўхілу гаспадаркі.

25. У зьвязку з узмацненьнем аграномічнага абслугоўваньня калгасаў павысіць тэхніку апрацоўкі глебы; гэтаму павінна спрыяць, асабліва ў дробных калгасах, групавае набыцьцё складаных машын).

26. У зьвязку з тым, што да апошняга часу адлічэньні калгасаў у непадзельныя капіталы былі вельмі нязначныя (13 проц. балянсу), што зьяўляецца аднэй з прычын развалу многіх калгасаў пры выхадзе некалькіх членаў, трэба, каб, акрамя атрыманае дзяржмаемасьці, у непадзельныя капіталы залічаліся таксама і ўсе ільготы па сельска-гаспадарчым падатку, прэміі, крэдыты ў асноўныя капіталы, астаткі ўступных узносаў пасьля выдаткаў на арганізацыю калгасаў і штогодныя адлічэньні з умоўначыстага прыбытку калгасаў; непадзельны капітал павінен знаходзіцца ў гаспадарчых сродках, як асноўных, так і зваротных.

27. У зьвязку з тым, што з вышэйпрыведзеных даных досыць яскрава выяўлена слабая ўвязка ў збытавай працы калгасаў з сыстэмаю сельска-гаспадарчай каапэрацыі, трэба, каб у далейшым, у адпаведнасьці з павялічэньнем таварнасьці калгасаў, апошнія ўзялі рашучы напрамак па ўвязцы свае збытавае працы з сыстэмаю сельска-гаспадарчае каапэрацыі. У сваю чаргу з боку каапэрацыі дабіцца цэннаснае перавагі калгасам пры рэалізацыі буйных партый аднолькавай кандыцыі тавараў; мець у пэрспэктыве сыстэму асобых дагавораў з каапэрацыяй; лічыць неабходным у кожным квартале паведамляць сэкцыю аб сваіх запатрабаваньнях у сродках вытворчасьці, а таксама аб меркаваньнях наконт збыту прадуктаў.

28. Даручыць акруговай сэкцыі распрацаваць узорныя правілы ўнутранага распарадку, прыстасоўваючы іх да ўмоў калектыўных гаспадарак Менскае акругі з момантамі, якія яскрава высьвятляюць працоўныя ўзаемаадносіны паміж членамі, правільна скарыстоўваючы кожную працоўную адзінку ва ўсякую пару году і ва ўсіх работах гаспадаркі і прадпрыемстваў.

29. Патрэбна, каб па ўсіх калектыўных гаспадарках на падставе вытворчага пляну былі разьмеркаваны і скарыстаны ўсе працаздольныя члены такім парадкам, каб канчаткова спыніць наём рабочае сілы; шырэй у вытворчасьць уцягнуць жанчын і моладзь, для чаго трэба больш абграмадзіць галіны вытворчасьці.

30. Хутчэйшае вырашэньне пытаньня аб паляпшэньні культурнага і бытавага становішча калгасаў можа быць праведзена пры адпаведных жыльлёвых умовах. Трэба павялічыць выданьне крэдытаў на жыльлёвае будаўніцтва. Па ўсіх калгасах паводле іх эканамічнае магчымасьці ўстанавіць штогодныя процантныя адлічэньні ад прыбыткаў гаспадаркі на разьвіцьцё культасветнае працы.

31. Аплату працы членаў калгасаў праводзіць па колькасьці і якасьці ўжытае працы, як мэтад павялічэньня прадукцыйнасьці; рэкамэндаваць пераход на форму платы па ўмове. Сэкцыі калгасаў распрацаваць прыкладныя нормы вырабу па розных галінах гаспадаркі, узяўшы за аснову нормы саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых.

32. Аплату працы ў таварыствах па агульнай апрацоўцы зямлі праводзіць пад ухілам матар'яльнае зацікаўленасьці і паступовага пераходу да найбольш поўнага абграмаджаньня вытворчасьці і працы.

33. Разьмер аплаты працы павінен знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад эканамічных магчымасьцяй калгасаў. Пры складаньні вытворчага пляну, прыбытковага і

выдатковага каштарысу трэба ў першую чаргу забясьпечыць выдаткі, зьвязаныя з запазычанасьцю і разьвіцьцём калектыўнае гаспадаркі, а апошнюю частку разьмеркаваць на аплату працы і паляпшэньне культурна-бытавых умоў.

34. Катэгарычна павесьці барацьбу супроць аплаты працы членам калгасаў па паёх і сем'ях.

35. Калгас-сэкцыі зьвярнуць увагу на паляпшэньне санітарна-гігіенічных умоў у жыльлёвым пытаньні, зьвяртаючы належную ўвагу на пабудову лазьняй. Пэрыодычна праводзіць абгляд кватэр і інш.

36 Зьезд даручае праўленьню калгас-сэкцыі разам з камсамолам распрацаваць шэраг мерапрыемстваў, якія замацоўвалі-б моладзь і садзейнічалі большаму пранікненьню яе ў калгасы.

37. Зьезд зьвяртае ўвагу Наркамасьветы і Наркамзему на патрэбнасьць падрыхтоўкі ў навучальных установах, тэхнікумах, сельска-гаспадарчай акадэміі, аграномаў з устаноўкай на калектыўную гаспадарку, а таксама каб у школах сялянскае моладзі і ў вясковых сямігодках уключыць у праграму вывучэньне форм калектывізацыі вёскі.

---

# Навіны транспарту

## ВЫПІСКА СА ЗБОРНІКУ ТАРЫФАЎ НКПС № 470 ад 23 МАЯ 1928 Г, З-Б-Ш: 4—КТР, №№ 205 і 216

Выключыць тарыфы №№ 9 і 10 па гр. 32 на перавозку ў простых зьмешаных чыгуначна-водных зносінах жалеза, бляхі, сталі, чыгуна ня ў вырабах і·солі, з 16-га маю 1928 г.

I. За павагонную перавозку ў простых зьмешаных чыгуначных і водных зносінах жалеза, бляхі, сталі і чыгуна ня ў вырабах (уся гр. 32, акрамя пазыцый 1-б, 4-б і 13-б):

1. Праз прыстані Запарожжа (Александраўск) і Ніжнядняпроўск Дняпроўскага дзяржрачпараходзтва ад станцый, адлеглых не далей 400 клм. ад аднае з вышэй паказаных прыстаней, праз якую накіроўваецца груз да ўсіх прыстаней Верхняга і Ніжняга Дняпра з іх прытокамі і Ніжняга Буга, а таксама да ўсіх станцый чыгункі, якія ляжаць за гэтымі прыстанямі, да якіх агульнае адлегласьць перавозкі па абодвух вучастках чыгункі, якія разьдзелены вадою, не перавышае 400 клм., перавозная плата разьлічваецца:

а) за чыгуначную частку шляху, паводле ільготнага грузавога тарыфу № 100, са скідкаю 10 проц.;

б) за водную частку шляху, паводле тарыфу простых, зьмешаных чыгуначна-водных зносін Дняпроўскага дзяржрачпараходзтва, са скідкаю 20 проц.

2. Праз прыстань Ніжнядняпроўск ад станцый, адлеглых не далей 500 клм. ад яе, да ўсіх станцый вучастку Бярэзіна (21)—Менск (6) Заходняй чыгункі, пры ўмове, калі агульная адлегласьць чыгуначнай перавозкі па абодвух вучастках чыгункі, якія разьдзелены вадою, не перавышае 500 клм., перавозная плата разьлічваецца:

а) за чыгуначную частку шляху, як паводле агульнага тарыфу, так і ў належных выпадках паводле ільготнага грузавога тарыфу № 100 са скідкаю 20 проц.;

б) за водную частку шляху, паводле тарыфу простых зьмешаных чыгуначна-водных зносін Дняпроўскага дзяржрачпараходзтва, са скідкаю 30 проц.

II. Да канца навігацыі на р. Дняпры і яго прытоках за павагонную перавозку ў спэцыяльна чыгуначных зносінах жалеза, бляхі, сталі і чыгуна ня ў вырабах (уся гр. 32, акрамя пазыцый 1-б, 4-б і 13-б):

ад станцый: Алчэўскае (156), Енакіева (222), Канстантынаўка (185) і Краматорская (89) Данской чыгункі, Аляксандраўск Ек. (157), Гараінава (63), Дняпроўск (62), Ніжнядняпроўск (59), Сартана (121), Сталіна (132), Трытузная (181), Ясінаватая (29) Ек. чыг., Александраўск (64) Паўдн. чыг.

да станцый: Нікалаеў (106), Нікополь 149), Хэрсон (109), Хэрсонскі порт (110) Ек. чыг., Гомель (35), Жлобін (27), Ворша Зах. (104), Рэчыца (65) Зах. чыг., а таксама да ўсіх станцый вучастку Бярэзіна (21), Менск (6) Зах. чыг., Магілеў на Дняпры (388) і Ворша (60) МББ чыг., Кіеў II (64), прыстань правы бераг р. Дняпра (132) і Чарнігаў (142) МКВ чыг., Вазнясенск (209), Валынскі Пост (147), Кіеў I тав. (149), Кіеў-Пятроўка (358), Кіеў-Падол (196), Мазыр (226), і Сьвятошына (173) Паўдн. Зах. чыг., Крамянчуг (201) і Чаркасы (234) Паўдн. чыг.

разьлік платы робіцца як паводле агульнага тарыфу, так і ў адпаведных выпадках паводле ільготнага грузавога тарыфу № 100 с падвышэньнем на 10 проц. (Паст. Тар. Кам. зацьв. 19 красавіка і 5 і 21 траўня 1928 г. пратаколы №№ 560, 563. 565).

**Растлумачэньне:**

1) у ч. II Збору тарыфаў („Тар. рук." № 205) на стар. 88 і 89 у гр. 3-й супроць пазыцый 14, за выключэньнем пазыцый 1-б, 13-б, у графу ўключыць: „9" і „10";

2) у ч. III Збору тарыфаў („Тар. Рук." 218 на стар. 88.

Гэты тарыф за водную частку шляху знаходзіцца ў тарыфе Дняпроўскага дзяржрачпараходзтва, уключаны пад № 3 у Збор водных тарыфаў на перавозку грузаў у простых зьмешчаных чыгуначна-водных зносінах („Тар. Рук. № 295).

## ВЫПІСКА З ЗБОРНІКУ ТАРЫФАЎ НКПС № 471 АД 30 ТРАЎНЯ 1928 Г.

У адм. С. Т. № 463 (521); к Т. Р
№№ 85 і 138.

Уключэньне ў простыя з дарогамі сеткі зносіны вучастку Ворша—Лепель М.-Б. Б. чыг. **803**.

З 13-га чэрвеня 1928 г. вучастак Ворша-Лепель М. Б. Б. чыг. са станцыямі Смаляны (155), Лемпіцы (156), Бубрын (157), Вятны (158), Чашнікі (159) і Лепель (160), уключаецца праз. ст. Ворша (60) у простыя з дарогамі сеткі зносін з учыненьнем пералічанымі станцыямі ў мясцовых і простых зносінах наступных апэрацый:

1. Станц. Лемпіцы (156), Чашнікі (159) і Лепель (160)—усіх камэрцыйных апэрацый.

2. Ст. Смаляны (155), Бубрын (157) і Вятны (158):

а) усіх пасажырскіх апэрацый і

б) па прыёмцы да адпраўкі і выдачы тавару, багажу і ўсіх грузаў дробнымі адпраўкамі, а таксама павагоннымі адпраўкамі грузаў, якія не патрабуюць хаваньня ў зачыненых складавых памяшканьнях.

Апрача таго, па выдачы павагоннымі адпраўкамі грузаў, якія патрабуюць хаваньня ў зачыненых памяшканьнях на наступных умовах:

у накладной, у графе „Станцыя назначэньня" паказваецца бліжэйшая станцыя, якая мае складавыя памяшканьні, з ліку тых, якія ляжаць за станцыяй, на якую павінен быць дастаўлен груз, з адзнакаю: „Для выгрузкі на такой-та станцыі". У выпадку нявыкупу грузу у працягу 24 гадзін з моманту прыбыцьця яго на паказаную ў накладной станцыю выгрузкі, груз перадаецца на паказаную ў накладной станцыю, якая мае складавыя памяшканьні.

Разрахунак платы ад станцыі названага вучастку па ўсіх перавозках, апрача ваенных і паштовых. учыняецца: па выключным пасажырскім тарыфе № 25 Тар. Рук. № 272 па мясцовых тарыфах: пасажыр. № 609—Тар. Рук. № 272 і грузавому № 23 (06) Тар. Рук. № 75 з пераломам тарыфу на ст. Ворша (60) М. Б. Б. чыг.

(§ 9 згодн. аб простых зносінах і адн. Праўл. М. Б. Б. чыгункі ад 24 сакавіка 1928 г. № КЦУ/2).

# ЛІСТ АРГКІРАЎНІЦТВА БЕЛКААПСАЮЗУ

## Рэвізійным камісіям і праўленьням Спажывецкіх т-ваў БССР

Надыходзіць канец 1927-28 гаспадарчага году.

Рэвізійныя камісіі, як органы грамадзкага кантролю, павінны праверыць, як праходзіла ў працягу году праца каапэрацыйных арганізацый ва ўсіх галінах іх дзейнасьці, якія маюцца вынікі, дасягненьні і недахопы, у якім стане знаходзіцца арганізацыя, даць ацэнку яе арганізацыйна-масавае працы, гаспадарчага і фінансавага становішча, праверыць выкананьне пастаноў сходу пайшчыкаў і ўпаўнаважаных спажыўтаварыстваў, саюзаў і г. д.

Ніжэй пералічваецца тая асноўная праца, якую павінна правесьці рэвізійная камісія спажыўтаварыства пры поўным садзейнічаньні праўленьня, у сувязі са сканчэньнем гаспадарчага году.

1. На 1/X 1928 году трэба падлічыць і скласьці сьпісы і ацэнку ўсіх каштоўнасьцяй каапэратыву: грошай, тавараў, маемасьці, інвэнтару і тары. Сьпісы павінны быць зроблены з натуры (у двох экзэмплярах) і падпісвацца на месцы праверкі членамі рэвізійных і крамных камісій і асобамі, якім даверены каштоўнасьці (касірамі, прадаўцамі і г. д.). У крамах трэба адначасова правяраць правільнасьць нацэнак на тавары, якасьць тавараў, парадак хаваньня і г. д. Выяўленая наяўнасьць параўняецца з астачаю адпаведнага віду каштоўнасьцяй па кнігах і дакумэнтах, і даецца ацэнка і тлумачэньне атрыманых вынікаў. Пры недахопах тавараў дапасоўваюцца скідкі на натуральныя страты, згодна з дапушчанымі нормамі (НКТоргу, райсаюзу), але ня больш фактычнага разьмеру страты і нормы, устаноўленае дагаворам праўленьня з загадчыкам крамы. Калі ўстаноўленымі нормамі недахопы не пакрыюцца, праўленьне павінна безадкладна спагнать лішак недахопаў з адказных асоб і абмеркаваць пытаньне, у залежнасьці ад канкрэтных акалічнасьцяй справы, пра звальненьне іх ад працы і перадачу ўсіх матар'ялаў судовым органам. У выпадку знаходжаньня лішкаў тавараў трэба таксама высьветліць іх прычыны і, калі будзе знойдзена, што прычына заключаецца ў злачынствах і ашуканствах пакупцоў, прыцягнуць да адказнасьці вінаватых асоб.

Лішкі, якія могуць выяўляцца пры праверцы тавараў, адносяцца на прыбыткі каапэратыву і ні ў якім разе не на пакрыцьцё ранейшых страт альбо страт па другіх крамах і таварах.

Неабходна праверыць дакумэнты і кнігі спажыўтаварыства ў сэнсе адпаведнасьці дакумэнтаў фактычным апэрацыям, правільнасьці складаньня дакумэнтаў, дасканальнасьці запісу дакумэнтаў у кнігах, сапраўднасьці вынікаў („итогов“) і пераносаў і г. д.

2. Трэба ўважліва разглядзець усе рахункі вінавайцаў арганізацыі.

У спажывецкіх таварыствах асабліва трэба праверыць завінавачанасьць заборшчыкаў: час яе ўзьнікненьня, на якіх дакумэнтах яна

грунтуецца, што зроблена праўленьнем у працягу году для яе спагнаньня. Завінавачанасьць, па якой няма дакумэнтаў і вінавайцы адмовіліся плаціць, трэба пералічыць на тых асоб (прадаўцоў, рахункаводаў, членаў праўленьня), якія паказалі такія даўгі па кнігах, ня маючы дакумэнтаў, і прапанаваць праўленьням спагнаць гэтыя сумы з іх нараўне з недахопамі тавараў.

Трэба таксама праверыць рахункі падсправаздачных асоб і патрабаваць, каб да першага кастрычніка 1928 г. усімі гэтымі асобамі былі здадзены ў касу ўсе незвыдадкаваныя імі авансы і справаздачы аб выдатках, каб на 1/X 1928 г. іх рахункі былі зачынены.

3. Трэба праверыць рахунак розных асоб і ўстаноў, для чаго загадзя запрасіць усе ўстановы, з якімі мае гандлёвую або грашовую сувязь арганізацыя, каб яны прыслалі выпіскі з рахункаў арганізацый, што ў іх вядуцца. Атрыманыя выпіскі або даведкі параўнаць з запісамі па кнігах арганізацыі і высьветліць усе непаразуменьні, якія пры гэтым сустрэнуцца, каб у заключным балянсе арганізацыі на 1/X 1928 г. была паказана сапраўдная запазычанасьць у актыве балянсу. (Праверка рахункаў з living рознымі арганізацыямі і сваім саюзам і неатрыманьне выпісак не павінны затрымліваць складаньня гадовае справаздачы і балянсу).

4. Трэба высьветліць становішча і прычыны растрат і недахопаў, якія мелі месца за 1927-28 і папярэднія гады: якая сума іх маецца, за кім, ці прысудзіў іх суд, што зроблена праўленьнем для іх спагнаньня, і даць падрабязнае тлумачэньне па гэтых справах.

5. Праверыць працу праўленьня па выкананьні плянаў па каапэраваньні насельніцтва і асобна беднаты, а таксама па паянамнажэньні даць ацэнку гэтае працы. Трэба праверыць, ці поўнасьцю і своечасова скарыстоўваліся фонды каапэраваньня беднаты ў працягу году. Ці скарыстаны ўвесь фонд каапэраваньня беднаты да 1-га кастрычніка 1928 г., і калі не скарыстаны, дык чаму, хто вінаваты ў нескарыстаньні фондаў па простым прызначэньні; у якім становішчы была культ. асьветная праца таварыства і арганізацыі каапактыву з ліку бядняцка-серадняцкае масы пайшчыкаў за мінулы год.

6. Праверыць, ці ажыцьцёўлена спажыўтаварыствам зьніжэньне адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў на 20 проц. у параўнаньні з 1926-27 г., і пры адмоўных выніках праверкі высьветліць прычыны гэтага і асоб, вінаватых у невыкананьні гэтае дырэктывы, і даць сваю ацэнку.

Таксама трэба зрабіць праверку ажыцьцяўленьня норм выдаткаў і накладаньняў, устаноўленых для каапэратыву.

7. Рэвізійнай камісіі трэба пільна прасачыць, каб правільна быў складзены балянс арганізацыі на 1/X 1928 г., каб былі сьпісаны з прыбытку адпаведныя сумы: а) у якасьці рэзэрву па безнадзейных пазыках і б) у фонд амартызацыі маемасьці—5 проц. каштоўнасьці драўляных будынкаў, 3 проц. каменных і 10 проц. каштоўнасьці іншае маемасьці.

8. Рэвізыйная камісія павінна даглядзець за правільным, поўным і своечасовым складаньнем гадовае справаздачы спажывецкага таварыства за 1927-28 г. па тэй форме, акая ўстаноўлена Белкаапсаюзам

па ўзгадненьні з РСІ. Усе табліцы гадовае справаздачы павінны быць дакладна і ўважліва праверaны, і па кожнай галіне працы спажыўтаварыства дадзена ацэнка з боку рэвізійнае камісіі.

9. Акуратнасьць і дасканальнасьць усяе гадовае рэвізіі мае вялікае значэньне для працы спажыўкаапэрацыі. Рэвізійная камісія павінна да гэтага добра падрыхтавацца і знаёміцца з адпаведнымі практычнымі ўказаньнямі. (Линтаров. „Руководство для ревизионных комиссий сельпо").

Аргкіраўніцтва Белкаапсаюзу зьвяртае ўвагу рэвізійных камісій на тое, каб да правядзеньня вышэйпералічанае працы былі прыцягнены ня толькі ўсе сябры рэвізійных камісій, але таксама крамныя камісіі і больш актыўныя пайшчыкі—упаўнаважаныя.

Уся праца, якую правядуць рэвізійныя камісіі павінна быць шырока вядома масам пайшчыкаў шляхам: вывешваньня пратаколаў і актаў рэвізійных камісій у крамах каапэратыву і хатах-чытальнях, асьвятленьня працы рэвізійнае камісіі і знойдзеных ёю вынікаў у мясцовых насьценгазэтах, шляхам дакладаў і справаздач рэвізійных камісій на сходах пайшчыкаў і ўпаўнаважаных.

Актыўная дзейная праца рэвізійных камісій набывае надзвычайна вялікае значэньне для праверкі выкананьня ўсіх тых заўваг, скарг, прапаноў самакрытыкі, якая ідзе з боку пайшчыкаў у галіне каапэрацыйнага будаўніцтва.

Аргкіраўніцтва заклікае ўсе рэвізійныя камісіі спажывецкіх таварыстваў да самай энэргічнай працы па выкананьні чарговых задач, што стаяць перад імі, з тым, каб на гадавых сходах пайшчыкаў і ўпаўнаважаных становішча спажыўтаварыстваў, справаздачнасьць праўленьняў і рэвізійных камісій былі ўсебакова праверaны і зразумелы пайшчыкам.

*Адказны рэдактар А. ФРЫД*
*Выдавец—Цэнтральны Каапэрацыйны Савет БССР*

